*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 сакавіка 1986 г. № 12 (3318) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Узорны танцавальны калектыў «Зубронак».

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ДРУГІ ЎСЕСАЮЗНЫ!..

Невычэрпная ты, крыніца народнай творчасці. Нястомна бруіш ты пад небам сацыялістычнай бацькаўшчыны, радуючы нас свежасцю, здзіўляючы разнастайнасцю таноў і адценняў. Песня і танец, музыка і тэатр, дэкаратыўна - прыкладное мастацтва... Усё, што створана самадзейнымі талентамі нашай шматнацыянальнай краіны, будзе агледжана і падсумавана на другім Усесаюзным фестывалі народнай творчасці. Ад раённых і гарадскіх аглядаў да рэспубліканскіх — такі абсяг фестывалю. Лепшыя з лепшых да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, якому і прысвечаны фестываль, пакажуць сваё майстэрства ў Маскве.

У Палацы культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода ў мінулую пятніцу адбылося ўрачыстае адкрыццё свята ў нашай рэспубліцы, на якім выступілі калектывы гэтага прадпрыемства. Намеснік старшыні гарвыканкома М. Д. Жукоўскі абвясціў старт фестывалю і выказаў спадзяванне, што тысячы і тысячы новых удзельнікаў папоўняць рады самадзейных калектываў.



Народны хор народнай песні.



Танцавальны ансамбль «Крыніца».

Фота Ул. КРУКА.

# СПРАВАЗДАЧНЫЯ СХОДЫ СЕКЦЫЙ

**Саюз пісьменнікаў Беларусі рыхтуецца да свайго чарговага IX з'езда. Адбыліся справаздачна-выбарчыя сходы творчых секцый, на якіх ішла шырокая і грунтоўная размова пра сучасную беларускую літаратуру, яе здабыткі, дасягненні і праблемы.**

**Абраны новы склад бюро секцый:**

**ПРОЗЫ: Віктар Казько (старшыня), Вячаслаў Адамчык (намеснік), Анатоль Сульянаў (намеснік), Уладзімір Паўлаў (сакратар), Алесь Адамовіч, Лідзія Арабей, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Генрых Далідовіч, Алесь Жук, Анатоль Кудравец, Мікола Кусянкоў, Хрысціна Лялько, Уладзіслаў Рубанаў, Васіль Хомчанка;**

**ПАЭЗІІ: Рыгор Барадулін (старшыня), Кастусь Цвірка (намеснік), Яўген Міклашэўскі (сакратар), Таіса Бондар, Васіль Вітка, Анатоль Вярцінскі, Валянціна Коўтун, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Някляеў, Юрась Свірка, Баніслаў Спрынчан, Валянцін Тарас, Яўгенія Янішчыц;**

**КРЫТЫКІ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА: Нічыпар Пашкевіч (старшыня), Серафім Андраюк (намеснік), Дзмітрый Бугаёў (намеснік), Аляксей Гардзіцкі (сакратар), Уладзімір Гніламёдаў, Мікола Грынчык, Эсфір Гурэвіч, Павел Дзюбайла, Васіль Івашын, Віктар Каваленка, Анатоль Клышка, Уладзімір Конан, Міхась Лазарук, Сцяпан Лаўшук, Міхась Мушынскі, Вера Палтаран, Ала Сямёнава, Міхась Тычына, Рыгор Шкраба, Генадзь Шупенька, Уладзімір Юрэвіч;**

**ДРАМАТУРГІІ: Мікола Матукоўскі (старшыня), Аляксандр Петрашкевіч (намеснік), Аляксей Дудараў (намеснік), Анатоль Дзялендзік, Галіна Каржанеўская (сакратар), Артур Вольскі, Кастусь Губарэвіч, Сцяпан Лаўшук, Георгій Марчук;**

**ДЗІЦЯЧАЙ І ЮНАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ: Артур Вольскі (старшыня), Яўген Каршукоў (намеснік), Павел Ткачоў (намеснік), Мікола Гамолка (сакратар), Эдзі Агняцвет, Алена Васілевіч, Галіна Васілеўская, Васіль Вітка, Анатоль Грачанікаў, Павел Кавалёў, Уладзімір Ліпскі, Валянцін Лукша, Сяргей Міхальчук, Станіслаў Шушкевіч;**

**МАСТАЦКАГА ПЕРАКЛАДУ: Вячаслаў Рагойша (старшыня), Ванкарэм Нікіфаровіч (намеснік), Іван Чарота (сакратар), Эдзі Агняцвет, Сяргей Панізнік, Валянцін Рабкевіч, Алесь Разанаў, Язэп Семяжон, Васіль Сёмуха, Мікола Татур, Карлас Шэрман, Уладзімір Чапега, Алесь Яскевіч.**

**Т. МАРТЫНЕНКА.**

# ЭКСПАЗІЦЫЯ Ў «КАСТРЫЧНІКУ»

**У фае мінскага кінатэатра «Кастрычнік» адкрылася выстаўка дакументальнай і мастацкай фатаграфіі «Беларусь: справы і людзі», прысвечаная XXVII з'езду КПСС.**

**Каля 110 фотаздымкаў карэспандэнтаў БЕЛТА ўсебакова расказваюць аб жыцці нашай рэспублікі.**

**Вялікую цікавасць у наведвальнікаў кінатэатра выклікаюць і фотастэнды мінскага гарадскога Дома санітарнай асветы аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам «П'янству — бой!», «Горкія вынікі чаркі». «Урокі зялёнага змея», якія змяшчаюць дзесяткі фотаздымкаў і шырокую тэматычную інфармацыю.**

**В. АСТРЫНСКІ.**

# ВІНШУЕМ!

**За шматгадовую плённую работу па падрыхтоўцы музычных кадраў, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў прарэктара па навуковай і ідэйна-творчай рабоце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага заслужанага работніка вышэйшай школы Беларускай ССР СЦЕПАНЦЭВІЧ Калерыю Іосіфаўну Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

**СЛОВАМ ПУБЛІЦЫСТА**

**Валянцін ТАРАС**

## *Час праўды*

Не навіна, што з праўдай поруч
і ночы цёмныя відны,
што лечыць душы
праўды горыч,
а губіць
штучны мёд маны.
І толькі праўдай —
болей нечым! —
мы вымятаем пыл і бруд.
Але заўжды, як чорт з-пад
печы,
дарадца хітры
тут як тут:
«Што, пра памылкі пішаш?
Рана!
Яшчэ не ўтаймаваўся боль,
яшчэ смыліць жывая рана,
а ты кладзеш на рану соль.,
Ці ж можна так неасцярожна?
Давай пакуль што памаўчым...»
А потым ён жа скажа:
«Позна!
Не калупайся у старым.
Бо небяспечна —
выйдзе бокам!
Маўчы, паслухайся мяне,
прыпомні, што вымаюць вока
тым, хто старое памяне.
Не выстаўляй сябе героем
і не стаўляй жыццё на кон...»

Ды ёсць яшчэ адзін закон:
хто пазабыўся пра старое —
таму абодва вокі вон!
Не стане боль утаймаваным.
Не прышчык, а душа баліць.
І не бывае так,
што рана
ці позна
праўду гаварыць.
І як яе падчас не рэжуць,
як не таўкуць яе падчас,
а час яе не знае межаў —
яна заўжды
у час
якраз!

## *Празрыстая алегорыя*

Тут не байкі і не казкі,
не прыдумкі нечыя,
што ваўкі і лісы
маскі
носяць чалавечыя.
Пацукі, тхары, гіены —
ўсе на маскарадзе...
Паглядзі:
ціхоня гэны,
што ціхенька крадзе, —
ці не спрытны ліс пад маскай
на ліслівай пысе?
А хабарнік, што «падмазкай»,
як крывёй, упіўся, —
хто такі?
Хавае іклы
ад людзей
ваўчына!..
Мы ж з табой маўчаць
прывыклі,
лыпаем вачыма!
Хто мы — людзі ці авечкі?
Дурні нам намэкалі,
што драпежны звер у прэчкі
сам адыдзе некалі.
Тут не бай на дудцы грае,
тут не гульні жадныя:
паздзіраем з хцівай зграі
маскі маскарадныя!
Каб уратаваць дзяржаву
ад ваўкоў-грабежнікаў.
трэба кожны дзень аблаву
весці на драпежнікаў.
Каб ніхто не пераскочыў
за сцяжкі чырвоныя,
падымай, народ рабочы,
сілы незлічоныя!

## *Балбатун*

Спраўна верне нос туды,
куды вецер дуне.
Ён і сёння, як заўжды,
першы на трыбуне.
Толькі ўчора ён хваліў
лаказуху, лажу,
і начальству ў вушы ліў
глей падхалімажу.
Плёў пра лён, пра хлеб, пра
грэс,
плёў пра будаўніцтва, —
скрозь, маўляў, такі прагрэс,
што і не прысніцца!
Ні на чым не бачыў ён
плямінкі ці болькі...
Памяняўся сёння тон:
пракурор, і толькі!
Пафас гэткі і запал,
аж клякочуць грудзі.
Пальцам тыцкае у зал:
«Дзе былі вы, людзі?!
Вы чаму не йшлі на бой —
нішчыць непаладкі?»
Ён крычыць, а мы з табой
пляскаем у ладкі.
І лагодна, як заўжды,
кожны зноў жартуе:
«Флюгер, верне нос туды,
куды вецер дуе!»
Мы жартуем, а пара б
гэтаму арапу
запіхнуць пагарды кляп
у дурную ляпу.
Каб злачынны балбатун
больш не меў папасу,
і зляцеў з усіх трыбун,
здзьмуты ветрам часу!

б добраўпарадкаванню горада і распаўсюджванню культуры ў ім. Таварыства цесна супрацоўнічала б з Мінскім гарадскім Саветам народных дэпутатаў і яго райсаветамі, а таксама з іншымі арганізацыямі. Таварыства, якое б цесна працавала ў садружнасці з калектывамі прамысловых прадпрыемстваў, магло б быць ініцыятарам стварэння патранажу заводаў, фабрык і домакіраўніцтваў над добраўпарадкаваннем і чысцінёй на мінскіх вуліцах і плошчах.

Таварыства праводзіла б розныя конкурсы, напрыклад, «Што такое добры дом?», «Добрая вуліца». У конкурсе ставілася б і такое пытанне: ці можна ацэньваць горад толькі ў функцыянальных катэгорыях, г. зн. лічыць «добрым» горадам той горад, у якім выгадна і зручна жыць, або горад павінен быць менавіта «добрым», г. зн. цікавым з пункту гледжання архітэктуры, мець шмат зеляніны і г. д.?

Гаворачы пра Мінск, мы павінны адначасова ўвесь час ставіць сабе і такое пытанне: «Як сёння, заўтра памножыць такую вартасць горада, як яго знешняе аблічча?» А каб гэта зрабіць, трэба не дапускаць больш памылак мінулага. У сувязі з гэтым у мяне да цябе, Праекціроўшчык і Архітэктар, ёсць некалькі канкрэтных пытанняў.

**Пытанне першае.** Наша сталіца яшчэ ніколі ў сваёй гісторыі не перажывала перыяд такога інтэнсіўнага развіцця, як цяпер. Але ж не аднымі квадратнымі метрамі жылля шчаслівы чалавек. Чаму ў Мінску да крыўднага мала помнікаў выдатным дзеячам рэвалюцыйнага руху, дзеячам культуры, буйнейшым вучоным? Чаму ў горадзе няма помніка М. В. Фрунзе? Няма помніка К. Каліноўскаму? Няма помнікаў М. Гарэцкаму і Ц. Гартнаму, В. Дуніну-Марцінкевічу, Ф. Багушэвічу?..

**Пытанне другое.** Як вядома, яшчэ ў 1972 г. было разгледжана пытанне аб забудове цэнтра горада ў напрамку другога гарадскога дыяметра — сучаснага праспекта Машэрава і прынята адпаведная пастанова. У гэтай пастанове ўказвалася на сур'ёзныя недахопы ў праектаванні і забудове праспекта Машэрава, нізкі архітэктурна-мастацкі ўзровень некаторых будынкаў і збудаванняў. У пастанове, у прыватнасці, указвалася на неабходнасць «рэканструяваць у 1974—1976 гг. існуючы будынак інтэрната Беларускага дзяржаўнага універсітэта». Мінула ўжо каля 10 гадоў. Аднак дагэтуль нічога не зроблена, каб хоць у нейкай ступені выправіць гэтае становішча. Дагэтуль інтэрнат стаіць — нявечыць (іншага слова не магу знайсці) праспект. Магчыма, ёсць сэнс аб'явіць конкурс, мэтай якога было б неяк палепшыць знешні выгляд будынка?

Увогуле, у нас назіраецца нейкая сляпая, невытлумачальная страсць да размяшчэння студэнцкіх інтэрнатаў (якія, пагадзіцеся, не з'яўляюцца ўпрыгожаннем галоўных вуліц горада) менавіта на цэнтральных магістралях Мінска. Успомнім, што і на Ленінскім праспекце — галоўнай артэрыі горада, яго візітнай картцы — на добрыя паўкіламетра ў агульнай складанасці размясціліся комплексы студэнцкіх інтэрнатаў політэхнічнага інстытута і інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Асабліва жывапісныя гэтыя інтэрнаты летам, калі ў іх вокнах можна любавацца загарам усіх адценняў і вывешанымі спартыўнымі майкамі.

**Пытанне трэцяе.** Як вядома, важным, непаўторным элементам гарадскога пейзажу з'яўляюцца гарадскія масты. Чаму ж дагэтуль мінскія масты праз Свіслач безыменныя? Чаму, напрыклад, адзін мост не назваць Галоўным (каля плошчы Перамогі), другі — Тэатральным (па вул. Я. Купалы), трэці — Нямігскім (каля Траецкага прадмесця)? Давайце ж назавём мінскія масты? Адгукніцеся, архітэктары, сацыёлагі, проста грамадзяне, якія любяць свой горад.

**Пытанне чацвёртае.** Чаму на Доме мадэлей па праспекце Машэрава ўмацавана пано, якое выяўляе шахцёраў з адбойнымі малаткамі, калгаснікаў са снапамі, салдат з вінтоўкамі? Гэта пано прыдатна, скажам, для Палаца прафсаюзаў або для плануемага Палаца Рэспублікі, ніяк па сэнсе не падыходзіць да Дома мадэлей.

**Пытанне пятае.** Чаму Палац Рэспублікі плануецца размясціць на месцы зялёнага сквера, што знаходзіцца побач з музеем Вялікай Айчыннай вайны па Цэнтральнай плошчы? Мінск не настолькі багаты зелянінай, каб высякаць тыя яшчэ некалькі дзесяткаў прыгожых дрэў, якія, магчыма, ацалеюць пасля будаўніцтва другой чаргі станцыі метро «Кастрычніцкая». Няўжо, працуючы над вялікім, трэба выпускаць з-пад увагі «малое»?

Раней сярод многіх праблем забудовы гарадоў самыя важныя месцы займалі жыллёвае будаўніцтва, рацыяналізацыя вулічнага руху. Экалагічная праблема, якая ўключае абарону ад забруджвання паветра (а менавіта тут надзвычай вялікая роля зялёных насаджэнняў) і крыніц вады, а таксама змяншэнне вулічнага шуму разглядалася як задача трэцеступеннай важнасці. Цяпер жа гэта праблема выходзіць на першы план. Ад таго, як горад засаджаны зелянінай, залежыць здароўе яго жыхароў, залежыць іх псіхічны стан, нарэшце, эстэтыка самога горада. Эколагі вылучаюць паверхні актыўныя і неактыўныя. Зямля, пакрытая бетонам і асфальтам, — гэта тэрыторыя біялагічна неактыўная, у якой усялякае жыццё памірае з-за недахопу вільгаці і асабліва паветра. Тэрыторыя актыўная — гэта, наадварот, тэрыторыя, пакрытая раслліннасцю.

Дык ці варта прыбягаць да хірургічных метадаў — ампутаваць зеляніну? Можа, лепш сто разоў стаць за чарцёж ля кульмана, сесці за стол для разлікаў? Могуць запярэчыць, што гэта абыдзецца дорага. Але дарагой культура толькі здаецца. У сапраўднасці ж яна акупляе сябе вельмі хутка — хутчэй самага сучаснага механізма, таму што культура — гэта адзінае асяроддзе, у якім чалавек здольны жыць і развівацца.

У Мінску ёсць некалькі арганізацый, якія так або інакш маюць адносіны да азелянення, але няма адзінага органа, які б цалкам адказваў за зялёнае будаўніцтва ў горадзе. Органа, які б адказваў за арганізацыю праектавання зялёнага будаўніцтва, няма і ў Дзяржбудзе БССР.

**Пытанне шостае.** Людзі шукаюць больш інтэнсіўных кантактаў з прыродай, з зелянінай. Для стварэння цесных кантактаў мінчан з прыродай існуе Генеральная схема зялёнага будаўніцтва ў Мінску і лесапаркавым поясе. Сумняваюся, каб у гэтым дакуменце было прадугледжана будаўніцтва ў месцах масавага адпачынку многіх мінчан, напрыклад, ларкоў па зборы ўтылю. А, між тым, такое будаўніцтва мае месца. Вазьміце Севастопальскі парк, любімае месца адпачынку многіх мінчан. У парку некалькі гадоў таму назад быў пабудаваны пункт-магазін па прыёме другаснай сыравіны Першамайскага раёна, ад якога, асабліва ў гарачае надвор'е, несліся такія пахі, што міжволі засяпшаешся, калі ідзеш побач. Чаму архітэктар Першамайскага раёна даў згоду на яго будаўніцтва? Чаму раённы савет па ахове прыроды маўчыць?

Далейшы лёс Севастопальскага парку ўвогуле насцярожвае. Ён з усіх бакоў заціснуты жыллёвай забудовай, яго тэрыторыя пастаянна падвяргаецца «атакам»: то адводзяць частку земляў пад гаражы (!), то высякаюць частку дрэў яшчэ для нечага, бо збіраюцца праводзіць праз яго нейкія магістралі...

Такіх пытанняў магло б быць і больш. Карацей кажучы, перад праекціроўшчыкамі, архітэктарамі стаяць задачы, якія раней ніколі не вырашаліся. Лад жыцця ў развітым сацыялістычным грамадстве ўжо цяпер прад'яўляе сур'ёзныя патрабаванні да сучаснага гарадскога асяроддзя. Гэта датычыць не толькі тых праблем, якія разглядаюцца ў артыкуле, а і такіх, напрыклад, як узровень развіцця гандлю і паслуг, рэальных магчымасцей эфектыўнага засваення гарадской культуры кожнай асобай. Менавіта ў гэтай галіне горадабудаўніцтва і архітэктуры ў нас ёсць яшчэ шэраг дастаткова вострых пытанняў, вырашэнню якіх павінна надавацца першаступенная ўвага не толькі з боку архітэктараў і горадабудаўнікоў, але і з боку эканамістаў, сацыёлагаў, псіхолагаў.

Праз нейкі час генеральны план развіцця Мінска, зацверджаны ў 1981 г., запатрабуе карэкціроўкі. Ці не трэба пры яго карэкціроўцы аб'яднаць генеральны план развіцця Мінска з планам эканамічнага і сацыяльнага развіцця горада, г. зн. стварыць адзіны дакумент, які вызначае развіццё Мінска?

**С. ПОЛЬСКІ,**
**прафесар, доктар геаграфічных навук.**

ХАРЧОВАЯ ПРАГРАМА: ЗДАБЫТКІ, ПРАБЛЕМЫ...

II.

Ігнат ДУБРОЎСКІ

РАШЭННІ




-ПРАГРАМА ЖЫЦЦЯ

# ЛЯЖАЧЫ КАМЕНЬ

Вёска Іжа. Цэнтр калгаса «Рассвет» на Вілейшчыне. На самай ускраіне яе экскаватар і бульдозер увішна пераварочваюць зямлю ўверх дном. Плошча, якую яны ўзрушылі, — гектары два. Збоку глядзячы, цяжка зразумець, што тут робіцца. Ці то меліяратары закладваюць глыбокі дрэнаж, ці мо водаправодчыкі вядуць водаправодную трасу, а можа, газавікі падводзяць трубы для натуральнага газу. Падобныя работы сёння вядуцца ў многіх вёсках, па ўсёй рэспубліцы.

— Кааператыўнае будаўніцтва. Першы вопыт у нашым раёне. Тут размесцяцца дзесяць сядзіб, з дамамі сучаснай архітэктуры, з надворнымі будынкамі, — кажа намеснік старшыні Вілейскага райвыканкома, начальнік УКБ Віктар Міхайлавіч Няхаеў. — Першы... арганізаваны ў мінулым годзе. Сяктак будуем, а як будзе далей?! — недагаворвае ён і сумна хітае галавой, нявесела глядзячы на ўзрушаную зямлю.

— А чаму — «як будзе далей»? — *пытаюся.*

— Павышаны цэны на будаўнічыя матэрыялы з першага студзеня 1984 года. Працэнтаў на дваццаць пяць. У сярэднім.

На канец 1984 года ў Вілейскім раёне, расказвае Віктар Міхайлавіч, было арганізавана некалькі будаўнічых кааператываў. Другі кааператыў быў створаны тут жа, у калгасе «Рассвет». Складваліся будаўнічыя кааператывы ў саўгасах «Вілейскі», «Любанскі», у саўгасе-тэхнікуме ў вёсцы Ілья, у калгасах імя Чарняхоўскага, «Чырвоны сцяг» і іншых гаспадарках. Найбольш ахвотна ішлі ў кааператывы работнікі эканамічна моцных калгасаў і саўгасаў. І гэта не толькі таму, што тут грошай больш. У тых гаспадарках, дзе кіраўніцтва было безыніцыятыўнае, упэўненай надзеі на хуткі ўздым грамадскай вытворчасці не было, і людзі да будаўнічых кааператываў ставіліся стрымана. «Пачакаем, пабачым, як пойдуць калгасныя справы...» Людзі ў такіх гаспадарках адчуваюць сябе на раздарожжы, не ведаюць, куды павярнуць — застацца ў вёсцы ці рушыць у горад.

Павышэнне цэн змяніла ў многім адносіны сялян да будаўнічай кааперацыі. Будаўніцтва аднаго дома да павышэння цэн каштавала васемнаццаць—дваццаць тысяч. Палавіну выдаткаў бралі на сябе калгасы і саўгасы. Пры такіх умовах можна было пачынаць будаўніцтва хоць дзесяці кааператываў. Праўда, стрымлівала будаўніцтва слабасць будаўнічых арганізацый, не было каму распрацоўваць праекты, бо праектныя арганізацыі не браліся. Перагружаны.

— Калі б выдаткі на будаўніцтва сядзібных дамоў і былі памяркоўныя, мы ўсё роўна з кааператыўным будаўніцтвам не надта б разгарнуліся. Сельскія будаўнічыя кааператывы — беспрытульныя. Папрашайкі. У планах сельскага будаўніцтва яны на апошнім месцы, ніхто за іх не адказвае. Усё залежыць ад ласкі ведамстваў. А гэта ж вёска, кадры, Харчовая праграма! — гнеўна кажа Няхаеў. — А тут яшчэ павышэнне цэн...

Павышэнне цэн ускладніла сітуацыю. Цяпер калгасы і саўгасы павінны павялічыць выдаткі на тую ж колькасць грамадскіх будаўнічых аб'ектаў працэнтаў на дваццаць пяць, а то і больш. Многія забудоўшчыкі, даведаўшыся пра павышэнне цэн на будаўніцтва, пазабіралі заявы з кааператываў.

Каб дакладна ведаць, колькі набярэцца ахвотнікаў уступіць у кааперацыю ва ўмовах новых цэн, Вілейскі райвыканком вырашыў таксама, як і Уздзенскі, арганізаваць «хаджэнне ў народ». Але тут без выстаўкі. Ва ўсе калгасы і саўгасы раёна, ва ўсе буйныя паселішчы былі накіраваны дэпутаты раённага Савета з даручэннем правесці ў вёсках сходы, зрабіць запісы жадаючых уступіць у будаўнічыя кааператывы. Дэпутаты правялі сходы, растлумачылі ўмовы кааператыўнага будаўніцтва, але... у кааператывы з усяго раёна не запісаўся ніводзін чалавек.

...Бульдозер разгортваў земляны вал, на якім мы стаялі. З кожным заходам ён усё больш набліжаўся да нас. Віктар Міхайлавіч, рослы, стройны, стаў прыглядацца, куды б нам саступіць. Паказаўшы на канаву, спытаў у мяне: «Адолеем?» і лёгка пераскочыў на той бок. Прыйшлося паднатужыцца і мне.

— Але апускаць рукі мы не думаем, — глядзячы, як бульдозер горне вал зямлі, кажа Віктар Міхайлавіч. — За сельскую жыллёва-будаўнічую кааперацыю трэба змагацца. Яна, у пэўных умовах, можа значна пашырыць жыллёвае будаўніцтва ў вёсцы. Прытым, заўважце, уласных дамоў. Дамы ўласныя, аднасямейныя, з сядзібамі родняць чалавека з зямлёй, са сваім калгасам, саўгасам навечна.

Ёсць надзеі і нават меркаванні знізіць кошт будаўніцтва дамоў скарыстаннем мясцовых будаўнічых матэрыялаў, — кажа далей Віктар Міхайлавіч. — У Вілейскім раёне працуе цагельны завод. Дае два мільёны цэглы ў год. А цэгла, калі яе купляць на базах, самы дарагі будаўнічы матэрыял. Свая будзе нашмат дзешавей. А чым не будаўнічы матэрыял камень? У большасці гаспадарак палі дужа завалунены. Арганізоўваем суботнікі па збору валуноў. Думаем і сельгастэхніку падключыць па ачыстку палёў.

— Чым дрэнны падмурак з каменяў? А калі паставіць каменедрабілку, то са шчэбня, пяску і цэменту можна будаваць хлявы, іншыя будынкі, нават дамы. Яны будуць значна дзешавейшыя за цагельныя, якія будуюць цяпер па праекту. Будзем шукаць выйсце, — па-гаспадарску мяркуе Няхаеў.

Пачуўшы ад Няхаева пра тое, што жаданне ўступаць у жыллёва-будаўнічыя кааператывы ў сялян астыла з-за павышэння цэн, мне падумалася: а як жа ідуць цяпер справы ў Уздзенскім раёне, дзе «хаджэнне ў народ» мела вялікі поспех? Якія цяпер, ва ўмовах павышаных цэн на будаўнічыя матэрыялы, поспехі ў ініцыятараў кааператыўнага будаўніцтва ў Нясвіжскім раёне? З'явілася жаданне зноў пабываць там.

●

А палове дзевятай раніцы Хрысціна Канстанцінаўна ўжо гаспадарыла ў сваім кабінеце — палівала вазоны, якімі густа ўстаўлены шырокі падаконнік. Высокае акно расчынена насцеж, у кабінет б'е пругкі струмень свежага халаднаватага паветра. Вецер, як заўзяты цырульнік, узбівае яе пышную прыгожую прычоску.

— Добры дзянёк, добры дзянёк! З прыездам! — павітала мяне Хрысціна Канстанцінаўна і спытала, паказваючы на расчыненае акно:

— Не баіцеся?

— А кветкі вашы не баяцца?

— Кветкі-то пакаёвыя, спешчаныя, вось я іх і загартоўваю, — жартавала яна, зачыняючы рамы. — Пабачце, як расцвіў кактус, — яна абедзвюма рукамі ўзняла вазон і паказала мне дзіўныя кветкі — пяціканцовыя зорачкі, густа ўсыпаныя срабрыстымі варсінкамі. — Кветкі любяць догляд. Наогул, любая справа, за якую ні вазьміся, патрабуе клопату, руплівасці. І тая ж сельская жыллёвая кааперацыя, якой вы цікавіліся, таксама. Га?

Яна загаварыла пра сельскую кааперацыю так, як бы працягвала ранейшую гутарку, так, нібы не было амаль гадавога перапынку ў нашай сустрэчы.

Хрысціна Канстанцінаўна расказала, што забудова сяліб у двух кааператывах, у якіх я пабываў, закончана цалкам. Дамы заселены. Два другія, у тых жа самых калгасах «17 верасня» і «Новае жыццё», будуюцца.

Гэта мяне ўзрадавала.

— А цэны? Павышэнне кошту будаўніцтва? Не стрымліваюць яны кааператыўнага руху? — спытаў я.

— Цэны?!

Зазваніў тэлефон, яна ўзяла трубку. Паслухала і сказала:

А можа б, вы, Віктар Міхайлавіч, на гэты раз зайшлі сюды? У нас госць, — і яна назвала мяне.

Я зразумеў, што званіў намеснік старшыні райвыканкома, начальнік УКБ Віктар Міхайлавіч Рымша.

Праз хвіліну прыйшоў Рымша, з'явіліся на работу інжынеры, якія працавалі ў кабінеце разам з Даменікоўскай. Пайшла ажыўленая гутарка аб кааператыўным будаўніцтве ў новых умовах — пры павышаных цэнах на будаўнічыя матэрыялы. Не ўсё гладка ідзе і ў Нясвіжскім раёне. Кааператыўнае будаўніцтва вядзецца пакуль што толькі ў дзвюх найбольш багатых гаспадарках. Будаўніцтва кааператыўных дамоў, напрыклад, у калгасе імя Леніна адклалі. Гаспадарка не бедная, але не змагла даплаціць забудоўшчыкам таму, што пачалося будаўніцтва свінакомплексу, а ва ўмовах павышаных цэн узраслі, вядома, выдаткі. Грошы, якімі меркавалася даплаціць за членаў жыллёвай кааперацыі, пайшлі на свінакомплекс. І тых не хапіла. Калгас мусіў прасіць дапамогі ў РАПА.

Хрысціна Канстанцінаўна кажа, што з павышэннем цэн на будаўнічыя матэрыялы забудова сядзіб значна падаражэла. Раней забудова сядзібы каштавала тысяч васемнаццаць — дваццаць, а цяпер — трыццаць пяць і больш. А калі ўзяць пачатак сямідзесятых гадоў, то сядзібны дом, аднасямейны, каштаваў восем — дванаццаць тысяч.

— Тады і дамы былі прасцейшыя, без усякіх бытавых выгод, — папраўляе яе Віктар Міхайлавіч. — А цяпер, бывае, і да сарака тысяч абыходзіцца.

— Не трэба будаваць харомаў з усялякімі выдумкамі, — кідае рэпліку старшы інжынер Анатоль Уладзіміравіч Жаўняркевіч, які дагэтуль спакойна слухаў разважанні Рымшы і Даменікоўскай.

— Харомы — не харомы, Анатоль Уладзіміравіч, а дамы, аднасямейныя сядзібныя, у сельскім пасёлку ці ў вёсцы павінны быць камфортнымі, зручнымі, утульнымі, з сучасным цывілізаваным бытам, не горшым, чым у гарадскіх кватэрах. Не забывайце, Анатоль Уладзіміравіч, што сённяшні селянін не той, якім быў гадоў трыццаць назад. Сённяшнія вяскоўцы, асабліва маладыя, не хочуць жыць у халупах, у якіх векавалі іхнія бацькі і дзяды.

— Хацець то не хочуць, але для многіх такія дамы-харомы — журавель у небе, — не згаджаецца Жаўняркевіч. — Самі ж вы сказалі, што будаўніцтва сучасных аднасямейных сядзібных дамоў з усімі выгодамі побыту стрымліваецца высокімі цэнамі. І гэта так.

— Стрымліваецца кааператыўнае будаўніцтва, а наогул то вёска перабудоўваецца, можа, і не такімі шпаркімі тэмпамі, якімі б нам хацелася, але ж абнаўляецца, змяняе сваё старое шэрае аблічча, — папраўляе Жаўняркевіча Рымша.

— Не забывайце, Анатоль Уладзіміравіч, што павышаны цэны і на дзяржаўны закуп сельскагаспадарчай прадукцыі, — нагадвае Хрысціна Канстанцінаўна. — Будуць расці прыбыткі ў калгасах і саўгасах, значыць, і ў калгаснікаў, рабочых саўгасаў заробкі павысяцца.

— Калі праўду казаць, то павышэнне закупачных цэн найбольш выгадна багатым гаспадаркам, — устае Жаўняркевіч і выходзіць з-за стала. — У іх больш таварнай прадукцыі, з якой блізка палавіны — звышпланавая. А за яе плацяць у дзве столкі. Павышэнне ж цэн на будаўнічыя матэрыялы больш накладна гаспадаркам слабым. Так на так не выходзіць.

Хваляванне ў спрэчцы пачынае ўзрастаць. Устае і Хрысціна Канстанцінаўна, але не выходзіць з-за свайго стала. Паскарае крокі і Рымша, які ўвесь час спрэчкі, кідаючы рэплікі, спакойна дэфіляваў па пакоі ад акна да дзвярэй і назад.

— Гэта мы ведаем, — адказвае Хрысціна Канстанцінаўна Анатолю Уладзіміравічу і прыгадвае, што ў калгасе імя Калініна чысты прыбытак за два гады пры новых цэнах узрос з чатырох мільёнаў да шасці мільёнаў рублёў з гакам, а ў калгасе «Запаветы Леніна» ён павялічыўся ўсяго на пяцьдзесят тысяч. Увесь чысты прыбытак яго не перавышае чатырохсот тысяч рублёў.

— Ну вось, — перабівае яе Анатоль Уладзіміравіч, — на даплату забудоўшчыкам кааператыву з дзесяці двароў, можа, у гэтым калгасе і хапіла б, а як жа з грамадскім гаспадарчым і культурным будаўніцтвам? А ці не варта было б увесці ніжэйшыя цэны на будаўнічыя матэрыялы для эканамічна слабых калгасаў і саўгасаў? — шукае выйсця Анатоль Уладзіміравіч, падкрэсліваючы, што ў эканамічна слабых гаспадарках найбольшая патрэба ў будаўніцтве жылых дамоў.

— Ні ў якім разе! —рашуча запярэчыла Хрысціна Канстанцінаўна. — Гэта будзе лазейка для спекулянтаў і розных дзялкоў. Мы ўсе добра ведаем, з якой нялёгкай рукой наш урад падпісвае пастановы аб павышэнні цэн на асобныя тавары. Гэта робіцца ў крайнім выпадку, у востра неабходных абставінах. Цэны для ўсіх павінны быць адзіныя. Ды і слабых калгасаў у нас раз — два. З гадамі і яны пабагацеюць. Не пачнеш жа кааператыўнае будаўніцтва ва ўсіх калгасах адразу. Няма сілы ў будаўнікоў.

— Правільна, Хрысціна Канстанцінаўна, пабагацеюць. Абавязкова. А за кааператыўнае будаўніцтва трэба трымацца, яно дазваляе скарыстаць дадатковыя сродкі, якія ляжаць у сялян на ашчадных кніжках, — кажа Рымша, не перастаючы шпацыраваць па пакоі.

Як толькі Рымша нагадаў пра грошы ў ашчадных касах, дзейная Хрысціна Канстанцінаўна адразу ж зняла трубку тэлефона і пазваніла ў раённую ашчадную касу. Праз хвіліну паведаміла нам, што ў вясковых ашчадных касах Нясвіжскага раёна налічваецца сорак пяць мільёнаў рублёў. Сума гэта рухомая, расце, як снежны камяк, па адным мільёне рублёў штогод.

Яе пальцы спрытна забегалі па клапанах электроннага міні-калькулятара. Яна падае такія разлікі: калі скарыстаць на жыллёвае будаўніцтва толькі гадавы прырост сельскіх ашчадных кас, то пры ўмове, што калгасы аплацяць палавіну кошту будаўніцтва, дадаткова ў раёне забудоўвалася б каля паўсотні сядзіб.

— Гэта за год. А за пяцігодку? — пытае Хрысціна Канстанцінаўна.

— А чаму толькі гадавы прырост? Чаму адзін мільён? А чаму не ўзяць два? — падыходзіць Віктар Міхайлавіч да стала Даменікоўскай. — Сорак пяць мільёнаў на ашчадных кніжках, а ў панчохах?

— Я мяркую крайне, — адказвае яна.

— Мільёны-то мільёны, але ў жыцці бывае так: у каго ёсць грошы, у таго і добрая кватэра, а то і ўласны дом з гаражом і «Жыгулямі», — пераканаўча заўважае Жаўняркевіч.

— Ёсць і такое, — згаджаецца Хрысціна Канстанцінаўна. — Але маюць грошы і тыя, каму трэба будаваць дом. Многія з тых.

Даменікоўская кваліфікаваны эканаміст. Яна прыкідвае і кажа, што на адну вясковую сям'ю даводзіцца ў сярэднім па пяць тысяч рублёў з тых грошай, якія ляжаць у ашчадных касах раёна. Сярэдняя лічба нічога не кажа? Не, гэта не так. Ёсць пэўная заканамернасць, нейкая мяжа ад сярэд-

(Працяг. Пачатак у № 11).

(Працяг на стар. 13).

# КНІГАПІС




ВЯСЁЛКА НАД АРЫКАМ. Вершы, апавяданні, казкі ўзбекскіх пісьменнікаў. Серыя «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР». Мінск. «Юнацтва», 1986.

**Пятая кніга «Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР» знаёміць з творчасцю ўзбекскіх пісьменнікаў. Трывалыя сувязі і ўзаемныя кантакты ў беларускіх літаратараў са сваімі калегамі. Асабліва плённа яны пачалі развівацца з таго часу, калі братні Узбекістан у гады Вялікай Айчыннай вайны даў прытулак нашаму народнаму песняру Якубу Коласу. Урывак з яго верша «Узбекістану», напісанага ў 1943 годзе, пастаўлены эпіграфам да гэтага тома, складзенага С. Барноевым, і В. Іпатавай.**

**Адкрываецца кніга прадмовай лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Хамзы Узбекскай ССР Х. Назіра «Песні сонечнага краю».**

**У раздзеле «З народнага» змешчаны некалькі ўзбекскіх казак — «Тры браты», «Ахмад і шах», «Малайцу і семдзесят навук мала»... Друкуюцца і творы з класічнай спадчыны — вершы А. Наваі, Увайсі, Фурката, Хамзы.**

**Узбекская дзіцячая літаратура пачала плённа развівацца пры Савецкай уладзе. Нават з твораў, надрукаваных у кнізе, бачна, як пашыралася іх праблематыка, як на гаворку з юным чытачом пачалі выходзіць і многія «дарослыя» пісьменнікі. Са старонак зборніка гучыць мудрае слова народных паэтаў Узбекістана Хабібі, Г. Гуляма С. Абдулы, Уйгуна, Гайраці, Міртэміра, народных пісьменнікаў рэспублікі К. Мухамадзі, Р. Файзі, С. Ахмата, А. Мухтара, Мірмухсіна. У гэтым шматгалосым хоры не губляе сваіх адценняў і песня народнай паэтэсы Зульфіі.**

**Узбекскі паэт-воін С. Джура, на жаль, не паспеў пазнаёміцца з беларускай літаратурай, але наша зямля для яго назаўсёды засталася роднай — трыццацідвухгадовы С. Джура загінуў смерцю героя, вызваляючы Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**Увазе беларускіх дзяцей прапануецца некалькі вершаў К. Мухамадзі. Ёсць магчымасць пазнаёміцца і з творчасцю такіх вядомых пісьменнікаў, як Р. Фархадзі. Х. Тухтабаеў, П. Мумін, якія перакладаюцца на многія мовы.**

**Каля сямідзесяці аўтараў прыйшлі да беларускага чытача. Творы іх пераклалі Э. Агняцвет, Р. Барадулін, А. Васілевіч, А. Вольскі, С. Грахоўскі, І. Чыгрынаў, В. Вітка, Г. Далідовіч, В. Лукша, В. Коўтун, М. Чарняўскі, С. Панізнік, У. Паўлаў, У. Казбярук і іншыя.**

**Як і папярэднія тамы, «Вясёлка над арыкам» ілюстравана лепшымі работамі мастакоў рэспублікі, што афармляюць дзіцячыя кнігі.**

**С. ХАДЖЫЕУ.**

## ДЫЯЛОГІ

# НАША ШКОЛА

*З літоўскім паэтам і перакладчыкам Эўгеніюсам МАТУЗЯВІЧУСАМ гутарыць Анатоль СІДАРЭВІЧ*

ДУМАЕЦЦА, няма патрэбы знаёміць Эўгеніюса Матузявічуса са сталым чытачом «Літаратуры і мастацтва»: яго вершы не раз друкаваліся на старонках штотыднёвіка. Адзін з ветэранаў літоўскай савецкай літаратуры, ён не толькі аўтар шматлікіх паэтычных кніг, выдадзеных на роднай мове і ў перакладах (у тым ліку і на беларускую мову), але шмат робіць і ў справе мастацкага перакладу. Як прыклад можна назваць кнігу вершаў і паэм Янкі Купалы «Мая доля», якая выйшла ў 1982 годзе ў выдавецтве «Вага». Эўгеніюс Матузявічус быў укладальнікам гэтага зборніка і аўтарам шматлікіх перакладаў. Перакладае паэт таксама з рускай (А. Пушкін, М. Лермантаў, М. Горкі, А. Талстой і інш.), з украінскай (Т. Шаўчэнка, М. Рыльскі) і з латышскай (Я. Райніс). Ён з'яўляецца старшынёй камісіі па мастацкім перакладзе Саюза пісьменнікаў Літвы.

Наша гутарка адбылася пасля таго, як у Вільнюсе прайшла канферэнцыя перакладчыкаў на літоўскую мову.

— Праз кожныя чатыры-пяць гадоў мы праводзім міжнародныя канферэнцыі перакладчыкаў з літоўскай мовы, — кажа Э. Матузявічус. — Гэта ўжо стала традыцыяй. І кожны раз канферэнцыі набываюць усё больш прадстаўнічы характар. Гэта значыць, што пашыраецца геаграфія перакладаў з літоўскай. На канферэнцыях абмяркоўваюцца тэарэтычныя пытанні перакладу з нашай мовы, тыя праблемы, якія маюць агульнае значэнне для ўсіх сяброў нашай літаратуры. Перакладчыкі знаёмяцца з гісторыяй, культурнымі традыцыямі, літаратурным жыццём Літвы, яе эканомікай. Гэты момант, можа, самы важны. Госці сустракаюцца са школьнікамі, студэнтамі, бываюць на канцэртах і спектаклях майстроў мастацтваў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Пасля такіх сустрэч людзі хочуць ізноў прыехаць у Літву. І калі яны прыязджаюць другі раз, дык маюць канкрэтныя планы, ведаюць, якія творы будуць перакладаць. У час канферэнцый яны гутараць з аўтарамі кніг, кансультуюцца з нашымі літаратуразнаўцамі, са сваімі калегамі з іншых саюзных рэспублік, з іншых краін. Больш цесныя становяцца асабістыя і дзелавыя кантакты, а гэта азначае, што перакладаў будзе больш, што яны будуць якасныя. Кажучы пра дзелавыя кантакты, я павінен удакладніць, што на канферэнцыях, акрамя перакладчыкаў, прысутнічаюць і выдаўцы. Так, на трэцюю канферэнцыю, якая адбылася ў 1984 годзе, прыехалі прадстаўнікі выдавецтваў з Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі і Злучаных Штатаў Амерыкі. Хачу ўдакладніць і яшчэ адзін момант. Літоўскае аддзяленне Усесаюзнага агенцтва па ахове аўтарскіх правоў вельмі спраўна інфармуе замежныя выдавецкія фірмы аб навінках нашай літаратуры, аб новых кнігах.

**— Ці не практыка міжнародных канферэнцый прывяла да думкі аб неабходнасці, калі можна так сказаць, унутранай канферэнцыі?**

— Яно было так і не зусім так. Мы пачалі думаць: добра, што ўсё больш актыўна перакладаюць нашу літаратуру, у нас таксама шмат перакладаў з іншых моў, але ці добра мы ведаем, што зрабілі, што яшчэ трэба зрабіць? Найперш трэба было асэнсаваць асноўныя этапы развіцця перакладчыцкай справы ў Літве. Скажам, да вайны былі і вельмі добрыя, выдатныя пераклады, але здараліся і скарочаныя. З 1945—1946 года пачаўся новы этап. Мы адразу ж паставілі сабе за мэту перакладаць усё самае лепшае, што ёсць на свеце: творы класічнай рускай літаратуры, класіку народаў СССР, савецкую класіку, класіку і выдатныя сучасныя творы краін сацыялізму, класіку і найлепшыя самыя новыя творы краін Заходняй Еўропы, іншых кантынентаў. Выявілася, што тэмпы развіцця перакладчыцкай справы ў Літве нарасталі з кожным дзесяцігоддзем. Добры разгон быў узяты адразу па вайне. Шмат у гэтым напрамку папрацаваў тагачасны галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва Валіс Драздаўскас. Хачу адзначыць, што ў нашых планах ужо тады фігуравалі і анталогія беларускай паэзіі, і асобныя кнігі Янкі Купалы ды Якуба Коласа. Трэба адзначыць таксама, што заходнееўрапейскую літаратуру мы перакладалі толькі з арыгіналаў. І тут нам дапамагала старая інтэлігенцыя. Так, напрыклад, Алексіс Хургінас у пасляваенныя гады пераклаў асноўныя драматургічныя творы Шэкспіра, «Боскую камедыю», «Фаўста», творы Байрана. Сённяшні літоўскі чытач добра ведае літаратуру еўрапейскіх сацыялістычных краін, англійскую, нямецкую, французскую, іспанскую, італьянскую літаратуры, амерыканскую. Менш мы знаёмыя з прыгожым пісьменствам краін Скандынавіі, кепска ведаем усходнія літаратуры. За апошнія 10—15 гадоў вырасла цікавасць да лацінаамерыканскай прозы.

**— Больш за дзвесце перакладчыкаў... Сабраць іх, арганізаваць работу двухдзённай канферэнцыі было, мусіць, не пад сілу аднаму Саюзу пісьменнікаў?**

— Сабралася на канферэнцыі каля 250 перакладчыкаў. Калі б не Дзяржаўны камітэт па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю нашай рэспублікі, канферэнцыі не было б. Дзяржкамітэт нёс на сабе асноўную ношку. Тут, напэўна, трэба адзначыць, што ўзначальвае гэтае ведамства Ёзас Някрошус, сам паэт і перакладчык. Даклады і дыскусію рыхтавала камісія па мастацкім перакладзе Саюза пісьменнікаў. Істотную падтрымку мы атрымалі ад ЦК Камуністычнай партыі Літвы. Сакратар ЦК Лёнгінас Шапяціс (ён у нас адначасова і старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі) зрабіў усё залежнае ад яго, каб канферэнцыя прайшла на высокім рабочым узроўні і стала сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Літвы.

**— Гэтая падзея запомніцца хоць бы і таму, што ўпершыню была прысуджана спецыяльная прэмія за работу ў галіне мастацкага перакладу. Цікава, як доўга вырашалася пытанне аб гэтай узнагародзе?**

— Разумею. Мы марылі пра яе год дзесяць-дванаццаць. А тут, калі добра захацелі і ўзяліся, пытанне вырашылася за тры месяцы. Міністр фінансаў Сікорскіс, які беражэ кожную капейку, вельмі хутка згадзіўся выдаткаваць тысячу рублёў. Справа, зразумела, не ў суме грошай, а ў павазе да тваёй работы.

**— І яшчэ, мусіць, у тым, што прэмія носіць імя Антанаса Венцлавы?**

— Я ведаю, якую вялікую арганізацыйную работу вёў у культурным і літаратурным жыцці Антанас Венцлава. Гэта была светлая асоба, надзеленая высокай культурай і канструктыўнасцю мыслення. Ён ведаў сусветную літаратуру і ўмеў глядзець на рэчы шырока, не па-сектанцку, не па-хутаранску. Яго звязвала асабістае сяброўства з Арнольдам Цвейгам, Леанам Кручкоўскім, Юльянам Тувімам, Пабла Пікаса... Вялікая яго роля ў арганізацыі перакладчыцкай справы. Сам Венцлава пераклаў «Яўгенія Анегіна», перакладаў з нямецкай і французскай. Калі паўстала пытанне, чыё імя будзе насіць новая прэмія, ваганняў не было. Да таго ж мы якраз рыхтаваліся да 80-годдзя з дня нараджэння Антанаса Венцлавы. Прэмія будзе прысуджацца штогод перад днём нараджэння пісьменніка, уручаць яе будуць на вечары інтэрнацыянальнай літаратуры, які можна яшчэ назваць і вечарам перакладчыка і перакладу.

**— Першым лаўрэатам гэтае прэміі стаў Дамінікас Урбас...**

— Ён, можна сказаць, патрыярх перакладчыцкай справы. Дамінікас Урбас перакладае непасрэдна з рускай, латышскай, польскай, нямецкай, французскай і з ідыша. Дзякуючы яму літоўцы прачыталі на роднай мове творы Бальзака, Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Купрына, Крашэўскага, Рэйманта, Рабле, Метэрлінка, Фалады, Фюмана, Гесэ, Шолам-Алейхема, іншых пісьменнікаў. У ягоным перакладзе юныя літоўцы чыталі і чытаюць казкі братоў Грым, Андэрсена і латышскія народныя казкі.

Апрача Дамінікаса Урбаса, былі адзначаны і іншыя таварышы. Уладасу Шымкусу прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры. Рамутэ Рамунене — заслужанага дзеяча асветы-культуры, а пяць чалавек былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Усе дыпломы і граматы Лёнгінас Шапяціс уручыў на гэтай канферэнцыі.

Канферэнцыя запомнілася і вечарам інтэрнацыянальнай паэзіі. Перакладчыкі чыталі вершы паэтаў розных краін і народаў. Ваш Алесь Разанаў чытаў вершы літоўскіх паэтаў па-беларуску. Гэта я кажу для таго, каб падкрэсліць, што на канферэнцыю былі запрошаны актыўныя перакладчыкі літоўскай літаратуры з саюзных рэспублік. У Дзяржаўнай бібліятэцы была наладжана выстаўка мастацкіх перакладаў за сорак гадоў. Самыя знакамітыя перакладчыкі мелі свае асабістыя стэнды. Акцэнт, натуральна ж, быў зроблены на перакладах Антанаса Венцлавы.

**— На канферэнцыі, як я ведаю, абмяркоўваліся і перспектывы развіцця перакладчыцкай справы ў Літве. Алесь Разанаў прывёз з гэтай канферэнцыі кніжачку, назва якое перакладаецца літаральна як «Спіс перспектыўных перакладаў».**

— Гэта спіс літаратуры, прапанаванай рознымі выдавецтвамі для перакладу на нашу мову. Спіс ахоплівае мастацкую літаратуру, якую выпускаюць выдавецтвы «Вагá» і «Вітуры́с», і навуковую літаратуру, якую выпускаюць выдавецтвы «Москлас» і «Мінціс». Выдавецтвы маюць пэўныя планы і падахвочваюць перакладчыкаў неадкладна ўзяцца за работу. Скажу яшчэ, што гэты план не закасцянелы: магчымыя карэктывы, бо жыццё, як вядома, не стаіць на месцы.

**— А яшчэ ў плане «Бібліятэка сусветнай літаратуры» ў 120 тамах...**

— Чаму ў плане? Пачынаем выпускаць сёлета. Кожны год будзе выходзіць дванаццаць тамоў.

**— Кажуць, што на «Бібліятэку...» хацелі падпісацца аж трыста тысяч чалавек...**

— І гэта ведаеце? Так, практычна кожны дзесяты літовец, кожная трэцяя наша сям'я хацелі б мець у сябе дома «Бібліятэку сусветнай літаратуры» на роднай мове. На жаль, паперы і ў нас не хапае, таму мы былі вымушаны абмежавацца тыражом 90—100 тысяч экземпляраў. Гэты факт, дарэчы, паказвае, якая адказнасць кладзецца на перакладчыка перад народам і роднай культурай, наколькі важная яго работа. Пераклады маюць для нас асаблівае значэнне і таму, што яны — вялікая школа для нашай культуры, літаратуры. Пераклады для нас школа і ў тым сэнсе, што мы як бы правяраем сваю мову. Агульнапрынятая літаратурная мова нас ужо не задавальняе. Мусіш ісці ў глыбіні народнае мовы, тварыць неалагізмы, глядзець, як літаратура размаўляла раней, учытвацца ў творы класікаў, у старыя слоўнікі.

**— На канферэнцыі выступала перакладчыца беларускай прозы Эмілія Легутэ...**

— Яна дзялілася сваім вопытам. Калі перакладала прозу Якуба Коласа, Міхася Лынькова і Вячаслава Адамчыка, дык яе якраз не задавальняла літаратурная мова. Шмат якія словы яна брала са свайго, дзукійскага дыялекту, у якім многа лексічных адзінак, блізкіх да лексем беларускай мовы. Дарэчы, матэрыялы канферэнцыі вырашана выдаць асобнаю кнігай. Гэта, як я думаю, будзе цікавая кніга па тэорыі, гісторыі і практыцы мастацкага перакладу ў Літве.

**— Для будучых перакладчыкаў?**

— Што ж, праблема кадраў заўсёды актуальная. Калі дбаеш пра будучыню культуры, літаратуры, мусіш дбаць і пра кадры.

**— У першым нумары газеты «Літаратура ір мянас» за гэты год быў надрукаваны артыкул Ёзаса Някрошуса пра стан і перспектывы мастацкага перакладу. У артыкуле ёсць такая лічба: на літоўскую зараз перакладаюць з 34-х моў народаў свету. Цікава ведаць: з арыгіналаў ці з падрадноўнікаў таксама?**

— Толькі з арыгіналаў. Вядома, былі і здараюцца цяпер пераклады з мовы-пасрэдніцы. Скажам, з рускай перакладаліся тры кнігі Івана Шамякіна. Гэта нельга лічыць нармальнай з'явай, і таму ў нас цяпер строгая ўстаноўка: усе кнігі, асабліва прозу, перакладаць толькі з арыгіналаў. Значыць, трэба клапаціцца пра кадры. Павінен адзначыць, што многія нашыя перакладчыкі ў пэўным сэнсе самавукі. Вальдас Пятраўскас, напрыклад, вывучаў

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

# «Свет жывы і непаўторны...»

Гэта ўжо не традыцыя і не схема: а жыццёвая неабходнасць ставіць у кнізе лепшыя вершы на першае месца. Паэт адкрывае ўваход у свет таямнічага, высакароднага і непаўторнага. Гэта — яго думкі, перакананні, святло душы, якое павінна паланіць і сагравацъ, захапіць прыгожым, абурыцца нізкім, задумацца над высновамі аўтара, пранікнуцца хваляваннем і неспакоем.

У такой паэтычнай абойме надзейна стаіць каля дзесятка вершаў Святланы Басуматравай, якімі адкрываецца яе другая кніга паэзіі «Кветкі палявыя». На першы погляд яны могуць здасца публіцыстычнымі. Аднак яе радкі, мускулістыя і пластычныя, кранаюць жыццёвасцю, непадробным пачуццём. Паэтэса не збіваецца на апісальнасць, якую цяжка спыніць у яе манатонным наплыве. Публіцыстычнасць яе лепшых вершаў хвалюючая, сагрэтая шчырасцю. Яе амплітуда, беручы пачатак у першых пасляваенных гадах, дасягае да нашых неспакойных дзён. Таму так натуральна і праўдзіва кладуцца яе радкі пра нашу «дарагую зямлю, ад попелу шэрую», пра тых, хто «пад градам кулявым гартаваў сэрцы і вытрымаў там, дзе не трывала сталь», і пра тое, што «нам прадаўжаць той спеў, што вы не давялі».

Далучанасць да подзвігу народа, знітаванасць маладога пакалення з гераічным мінулым і сучаснасцю, можа, як ніхто з яе аднагодкаў, перакаўча выказвае ў сваіх грамадзянскіх вершах С. Басуматрава. Не кідаючы ніякага ценю на яе здольнасць, зазначу, што яе некаторыя вершы-згадкі пра ваенную пару («Увабрала памяць аб вайне я з малаком і калыханкай») блізкія па настрої і выяўленні творам Е. Лось — паэтэсе, якая запамінальна адлюстравала той суровы час.

У С. Басуматравай свой голас, сваё бачанне навакольнага свету, без чаго не бывае паэта. Яе шчырыя, дакладныя, на першы погляд зусім простыя радкі добра раскрываюць душу гераіні, яе памкненні падзяліцца самым важным і запаветным. І не выпадкова яе вершы ў сваёй большасці нагадваюць маленькія навелы пра чалавека, які не так і шмат пражыў, але якому нямала выпала адчуць і пабачыць. Адсюль і давер да яе лірычнага «я», памяць якога неадлучная ад лёсу народа. Яе «Перапёлачка» хораша высвятляе жыццё беларуса ад сахі да касмічных палётаў. А гэта — не менш важныя штрыхі да партрэта дзяцінства пасляваеннай пары. Вось як яно, не лёгкае, ды незабыўнае, убачылася ў цацках навагодняй ёлкі: «І рыбкі з кардону, і яблычкі з ваты, і з парафабаванай паперы сцяжкі; І мне з парашутнага белага шоўку сукеначку мама пашыла сама». Гэта ўсё перажытае, а не прыдуманае.

Як пераклічка пакаленняў, як вернасць ідэалам бацькоў уяўляюцца ўдзячныя радкі пра франтавікоў і яе паэтычнага настаўніка А. Пысіна:

**Хвалюецца і жыта — пры жыцці**
**Не ўсё пераказаць яму паспела.**

Па такім прыліве пачуцця можна меркаваць пра значнасць таленту слыннага паэта. Жывая, чалавечая струнка шкадавання, «душэўны дыялог» збліжае напісанае С. Басуматравай з маналагічнай паэзіяй паэта і ратніка А. Пысіна. А ў вершы «Зорка Купалы» паэтэсе ўдалося адысці ад традыцыйнага ўяўлення пра вялікага песняра і па-свойму ўглядзецца ў веліч народнага класіка:

**Папараць-кветка, што з лесу прапала,**
**Зоркай Купалы на небе гарыць.**

Не пакідаюць абыякавым і вершы «Свет, жывы і непаўторны», «Вайна пакінула калецтва», «Трывогі веку і загадкі дня», «Мінуты маўчання», «Грае вецер на сасне», «Здаецца іншым, лёгка мне даецца...» Яны — жыццёвы роздум пра час і пра сябе, пра душу жанчыны і пошукі адзінага слова, каб не чужой увайсці ў «чужы лёс».

Акно паэзіі С. Басуматравай расчыняецца ў вялікі свет чалавечых думак і перажыванняў. Хоць кніга і названа батанічна, аднак яе лепшыя вершы не патанулі ў разнакветцці поля, а мужна гучаць галасамі жыцця, душэўным неспакоем за наш складаны час. Матыў трывогі за лёс Зямлі, за жыццё на ёй выразна адчуваецца ў «Кветках палявых». Словы, якія ідуць ад імя жанчыны, набываюць асаблівую перакананасць у сіле і розуме Чалавека, што здолеў запаліць «Зямныя сонцы на сотні тысяч кілават».

**Ізноў трывога наплывае,**
**А сэрца ные і баліць:**
**Няужо ж усё, што асвятляе,**
**Аднойчы можа спапяліць...**

Сёння, як ніколі раней, наша паэзія страсна і па-грамадзянску заклапочана падае свой голас у абарону міру. І тут слова С. Басуматравай важкае і адчувальнае:

**Сусвет качае шарыкі планет,**
**Нібы дзяўчынка яблыкі на ўлонні.**
**І чалавека заўтрашняга свет**
**У вечнасці маўклівай на далоні.**
**Чым будзе ён — шуганнем траў і рэк?**
**Жахлівай жменькай попелу сівога?**
**— Аб гэтым думай сёння, чалавек,**
**Усё залежыць ад цябе самога.**

Гэта ўвесь верш. Без адчаю, без слоўнага нагнятання. Такая выразная і абгрунтаваная выснова выяўляе ўменне аўтара лаканічна (тут сапраўды словам цесна) перадаць трывогу зямлі на грані ядзернай катастрофы.

У адным з вершаў С. Басуматрава ўсклікнула: «Жыць на свеце не ўлюбёнай — гэткі лёс не для мяне». І ў зборніку «Кветкі палявыя» адчуваецца закаханасць паэтэсы ў родную зямлю, у край над Бярозай-ракой. Нават назвы вершаў гавораць самі за сябе: «Дома», «Жыве мая бабуля на фарштаце», «Мой лес, кірмаш мой каляровы», «Сярод палёў бяжыць мая дарога», «Смалістыя сосны ў вадзе па калена»... Хочацца адзначыць, што ў паэзіі С. Басуматравай няма настальгічнага ныцця, надрыву, шкадавання па страчаным кутку. Знітаванасць яе гераіні з роднай зямлёй крэўная, неабходная, можна нават сказаць, прыродная. Дарэчы, у вершах, адрасаваных дачцэ (яны адны з лепшых у кнізе), улоўліваецца еднасць чалавека і жывой прыроды, паўната светаўспрымання, якія былі б збеднены без спагадлівых адносін да кветак палявых і «брацціў нашых меншых»: «Дзіцятка бяжыць аляняткам смуглявым... Праз сосны да сонца выходзіць алень». «А як дачушка пляскае ў далоні, ўбачыўшы звычайнага каня».

Паэтэса жыве такім жаданнем: «Хочацца вершаў шчымліва-шчаслівых». І пішучы пра дарагое, роднае, блізкае, мара не аддаляцца ад яе і не засмужвацца.

Хочацца спыніцца на «шчымлівых вершах». Маю на ўвазе інтымную лірыку С. Басуматравай, якая заняла палавіну зборніка «Кветкі палявыя». Здольная паэтэса не баіцца і не саромеецца сваіх пачуццяў. Перажывае яе гераіня адкрыта, шчодра дзеліцца сваёй памяццю. У душы яна шкадуе аб тым, што лепшым марам не суджана збыцца. Тут і дакор бескlапотнасці, даверлівасці і крыўда, што каханне прыносіць не толькі шчасце. Яе інтымная лірыка — не высокая, шчаслівая песня каханню, не ўдзячная хвала лёсу, а пакутлівае прызнанне чыстай душы, якая, даверыўшы аднойчы самае дарагое другому сэрцу, памылілася ў ім. Зоркі лірыкі кахання не часта загараюцца на небасхіле нашай паэзіі.

У век вэртлявай музыкі, эстрадных шлягераў, калі само слова «каханне» не сыходзіць з вуснаў спевакоў і нярэдка абясцэньваецца і апашляецца, як гаючай крыніцы ў спякотны дзень, рады пакланіцца сардэчнаму прызнанню, глыбокаму, шчыраму перажыванню, чалавечаму непадробнаму пачуццю.

**Баюся гэтай стрэчы не таму,**
**Што мне яна здаецца небяспечнай,**
**(А раптам разгублюся, абдыму**
**І прашапчу скрозь слёзы: «Мой навечна»).**

Такая няўпэўненасць у сваіх паводзінах лепш раскрывае закаханую душу, чым шмат разоў паўтораныя слязлівыя прызнанні: «Мой любы», «Запознены мой мілы», «Мой любы чалавек», «Выпадкова мной сустрэты», «Мой каханы», «Свая ў цябе цяпер сям'я і справы», «Я знаю, мне цябе чакаць не варта», «Жыць без кахання немагчыма»... У такіх вершах паэтэса так засведчвае пачуццё, якое перажыта як бы не ёй. Здаецца і раскрыта душа, але няма ў вершах руху думкі, глыбокага перажывання, якое нельга выдумаць. І аўтар са сваім бачаннем свету сыходзіць на ніжэйшую ступеньку роздуму, калі вонкавая шчырасць пераходзіць у банальнасць, пераказ перажытага на шчымлівай ноце. Такая небяспека падсцерагае і С. Басуматраву. Яна як бы забывае, што паэзія павінна прысутнічаць не тэмай, а непаўторным пачуццём, вобразамі, тым прызнаннем, якое прыходзіць толькі аднойчы. Там, дзе паэтэса не іграе сябе, не падмяняе лірычнае «я», дзе мяжа яе гераіні і самога аўтара зліваюцца ў адно цэлае, жывуць аднымі думкамі, тады і вершы атрымліваюцца больш непасрэдныя:

**Я іншы лёс і ў марах не шукаю.**
**Калі аднойчы раптам праз гады**
**Пачуеш ты, што больш я не чакаю, —**
**Знай я цябе чакаю і тады.**

Паўтару следам за паэтэсай: «О, гэта ж так нялёгка быць жанчынай». І яшчэ, відаць, цяжэй напісаць пра гэта ўражліва і непаўторна. Вершы «Калі пяе завея за плячыма», «Не, не, на картах я не варажу», «Бывае, людзям вочы колюць крылы», «Ты, толькі ты мая любоў і сум», «З галінкі яблык глуха падае», «Гойдае голле», «Адбітак-месяц залатою ружай...» сведчаць, што і С. Басуматравай удаецца раскрыць стан закаханай душы, тонка акрэсліць яе словам, якое здольна высвеціць першароднасць пачуцця, яго нерушную цнатлівасць. У «Рабінавай ночы» яскрава бачыцца, як «ціха белы шалік мой дзявочы пяром лябёдкі падаў на траву». То адчуваю момант, да якога «застаўся крок апошні да слёз шчаслівых на тваім плячы». Паўстае і той гушчар, адкуль выходзілі шчаслівыя: «Была рука ў руцэ. І толькі вочы ў вочы не глядзелі».

С. Басуматрава шчодра высыпала на «поле кнігі» інтымныя вершы. Адны з іх застануцца ў творчым актыве паэтэсы, але ж ёсць і такія, што мяжуюцца амаль з альбомнымі запісамі і прызнаннямі. У

С. Басуматрава. Кветкі палявыя. Кніга паэзіі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.

# НАША ШКОЛА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

ва універсітэце французскую. Потым самастойна вывучыў іспанскую, італьянскую і партугальскую. У сааўтарстве склаў італьянска-літоўскі слоўнік. Вынік такой самаадукацыі — творы Астурыяса, Карпенцьера, Гарсія Маркеса, Унамуно, Марлі, Заля, Сент-Экзюперы і іншых пісьменнікаў на нашай мове. Я лічу, што веданне моў аднае групы — зарука прафесіяналізму і майстэрства. Вядома, і засяроджанасць на адной мове, на адной літаратуры таксама прыносіць плён, але я ўпэўнены, што пры гэтым абавязкова трэба добра ведаць сувязі, скажам, нямецкай з іншымі мовамі і літаратурамі.

**— Наколькі я ведаю, у літоўскіх перакладчыкаў няма сваёй трыбуны — альманаха ці то часопіса...**

— Вашы перакладчыкі маюць у гэтым сэнсе больш спрыяльныя ўмовы: у іх ёсць «Братэрства», «Далягляды» і «Ветразь». Ды што казаць, ваша рэспубліка ў тры разы большая за Літву, значыць, і магчымасці большыя. Калі мы пачнём выпускаць альманах, дык вы павінны мець да таго часу выданне накшталт «Иностранной литературы» ці «Всесвіту». Мяркуем, што ў нашым альманаху будуць друкавацца пераклады савецкай і замежнай паэзіі і прозы, рэцэнзіі на перакладныя кнігі, будуць абмяркоўвацца тэорыя і практыка нашай работы. Будзем таксама знаёміць з перакладамі твораў іншых літаратур на іншыя мовы. Скажам, чаму б не прааналізаваць «Фаўста» ў перакладзе на беларускую Васіля Сёмухі? Хоць у нас і няма пакуль што альманаха, нашы перакладчыкі не могуць, аднак, наракаць, што іхнюю работу не вітаюць, што выдавецтвы да іх безуважныя.

**— Пра гэта сведчыць і перспектыўны план. Я прачытаў яго. Апрача мастацкай, мяне зацікавіла літаратура гістарычная, філасофская. «Літоўская методыка», «Хроніка» Стрыйкоўскага, творы Анёла Доўгірда, Платона, Арыстоцеля, Сенекі, Марка Аўрэлія, Аўгусціна, Плаціна, Тамаша Аквінскага, Берклі, Паскаля, Шэленга, Канта, Фіхтэ, Гегеля, Шапенгаўэра, Хайрэгера, Мантэня, Вальтэра, Русо, Ламетры, Камю, Сартра, Конта, «Упанішады»...**

— Не сумняваюся, што вы спецыяльна пацікавіліся і тым, што плануецца перакласці з беларускай літаратуры.

**— Магу пералічыць. Гэта «Карнікі» Алеся Адамовіча, двухтомная анталогія беларускай савецкай паэзіі, паэтычныя зборнікі Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, кнігі прозы Уладзіміра Караткевіча («Чорны замак Альшанскі» і «Лісце каштанаў»), Вольгі Іпатавай. Алены Кобец-Філімонавай і Паўла Місько. Кнігі трох апошніх аўтараў, як і «Лісце каштанаў», — для дзяцей і юнацтва.**

— План, паўтараю, не зацвярдзелы, але скажу шчыра: пакуль што не густа. Зрэшты, і на Беларусі выходзіць не шмат кніг літоўскіх аўтараў. Здзіўляюць мяне і вашы тыражы. Кніга Альфансаса Малдоніса выйшла ў 1900 экземплярах. І гэта ў рэспубліцы, дзе не тры, як у нас, а дзесяць мільёнаў жыхароў...

**— Уражанне такое, што мы ўсё яшчэ знаёмімся. Помніцца, што ў 1969 годзе Янка Брыль сказаў: пара б даўно ад знаёмства перайсці да супрацоўніцтва.**

— Слушна сказаў Янка.

**— У нас амаль тры гады назад выйшлі «Чатыры пары года» Данелайціса ў перакладзе Аляксея Зарыцкага. Гэтая работа высока ацэнена Львом Озеравым і Альмай Лапінскене. Але дасюль мы не маем у перакладзе твораў і такіх айцоў Літвы, як Баранаўскас і Майроніс...**

— А мы не маем Багдановіча. Што праўда, Антанас Дрылінга абяцае падрыхтаваць зборнік ягонай паэзіі. Рыхтуем, як вы ведаеце, кнігу Якуба Коласа. З даўнейшых набыткаў трэба згадаць дзве анталогіі беларускай паэзіі, кнігі Змітрака Бядулі, Івана Мележа, рэгулярна перакладаем Васіля Быкава, але не гэтак рэгулярна, як хацелася б. Сёлета ў серыі «Жвайгждзінас» («Сузор'е») выйдзе кніга Максіма Танка, якую ў асноўным пераклалі Альбінас Жукаўскас і я. У гэтай серыі ўжо выпускаліся зборнікі Аркадзя Куляшова і Рыгора Барадуліна. Рыхтуем прадстаўнічую анталогію беларускай савецкай паэзіі. Рыхтуем і думаем: выпускаць нам адзін вялікі том ці два? Маладыя перакладчыкі прапануюць уключыць у яе толькі сучасную паэзію, каб не паўтарацца: Купала і Колас, маўляў, былі ў ранейшых анталогіях, выдаваліся асобна. Я ж не ўяўляю анталогію без гэтых паэтаў. А паэзія ваеннага часу? У агульнасаюзным кантэксце яна можа параўнацца толькі з рускай. Пра «ваенную» прозу і казаць няма чаго: яна вывела вас на ўзровень сучаснай сусветнай літаратуры. Нешта падобнае адбылося ў свой час і з літаратурай югаслаўскай. Думаю, што пасля фільма «Ідзі і глядзі», які выклікаў у Літве фурор, прэстыж вашай літаратуры і мастацтва істотна ўмацаваўся. Вядома ж, вялікая заслуга ў падвышэнні і ўмацаванні аўтарытэту беларускай літаратуры на сусветнай арэне належыць Васілю Быкаву. Ягоны «Знак бяды», напрыклад, уражвае сваёй шматпланавасцю і адначасова лаканічнасцю. Быкаў геніяльны ў тым сэнсе, што ён не кідаецца словамі. Драматызм сітуацыі, боль нельга перадаць гучнымі словамі. Быкаў ідзе знутры, паказвае нам унутраны свет чалавека. І тут я бачу добры мадэрнізм, мадэрнізм у тым сэнсе, што ён — пісьменнік нашага часу, што ягонае мысленне ёсць мысленне нашага часу. Дазволю сабе параўнаць яго з Іва Андрычам. У абодвух пісьменнікаў стыль мыслення чымсьці падобны. У Быкава — і гэта самае галоўнае — няма штампаў, ягоны падыход да праблемы чалавека на вайне характарызуецца наватарствам, мастацкай, канцэптуальнай смеласцю. Шлях праўды вельмі цяжкі, і гэта ў самым добрым сэнсе адлюстравана ў пісьменніцкім стылі. Слова ў Быкава не ідзе на вецер, глыбіня сэнсу заключаецца ў простых словах.

## У ГОНАР ПЕСНЯРА

**Частымі гасцямі ў навучэнцаў Мінскага сярэдняга ПТВ № 63 бываюць беларускія пісьменнікі. На гэты раз у вучылішча завітаў не паэт, не празаік, але вельмі блізкі да роднай літаратуры чалавек — заслужаны работнік культуры БССР, сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. З ім прыйшоў старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа І. Курбека.**

**З вялікай цікавасцю слухалі навучэнцы расказ пра жыццё і творчасць песняра, гісторыю напісання твораў, што даўно сталі любімымі ў народзе. Жывымі ўяўляліся слухачам славуты дзед Талаш і яго сын Панас, героі Коласавай «Дрыгвы». З Васілём Ісакавічам меў сустрэчы Даніла Канстанцінавіч, з Панасам (у сапраўднасці звалі яго Змітраком) шмат разоў сустракаўся І. Курбека.**

**Гутарку дапоўнілі члены творчага гуртка «Жалейка», што працуе пры кабінеце беларускай мовы і літаратуры вучылішча. Хлопцы і дзяўчаты дэкламавалі творы песняра, абменьваліся з гасцямі думкамі аб яго жыцці.**

**В. ЗАЙКО.**

## *РАСКРЫВАЮЧЫ СВЕТ ТВОРЦЫ*

**Імя заслужанага настаўніка БССР, жывапісца Сяргея Каткова нямала гаворыць аматарам мастацтва. І таму, што творца пакінуў пасля сябе нямала цікавых работ, і таму, што на працягу многіх гадоў ён узначальваў выяўленчую студыю Мінскага Палаца піянераў, даючы пуцёўку ў творчасць юным талентам. Сваім настаўнікам з гонарам называюць сёння С. Каткова У. Стэльмашонак, М. Данцыг, Н. Шчасная, А. Луцэвіч і іншыя.**

**З жыццёвым і творчым шляхам мастака-педагога можна пазнаёміцца на старонках альбома-нарыса «Сяргей Каткоў», выпушчанага выдавецтвам «Беларусь». Аўтар А. Бяспалы, прытрымліваючыся абранай для падобных выданняў формы, прасочвае эвалюцыю станаўлення творцы, спыняючы асноўную ўвагу на тых момантах у яго біяграфіі, якія асабліва шмат значылі для выяўлення творчай індывідуальнасці.**

**Як вядома, С. Каткоў некаторы час пасля заканчэння Пензенскага мастацкага вучылішча працаваў у мясцовым педагагічным тэхнікуме, адначасова прымаў удзел у абласных выстаўках. Новы этап у яго біяграфіі пачаўся з 1934 года, калі жыццё назаўсёды звязаў з беларускай зямлёй, а праз тры гады ўзначаліў студыю выяўленчага мастацтва.**

**Расказваецца пра асобныя работы ваеннага часу — альбом франтавых замалёвак С. Каткова захоўваецца ў Музеі Савецкай Арміі ў аддзеле «Мастакі на фронце», пра пасляваенныя творы, што сталі першымі падступамі да спасціжэння магчымасцей пейзажу, як жанру, які затым дазволіў мастаку стварыць сапраўдную песню пра Беларусь, адлюстраваўшы хараство яе краявідаў, таксама раскрыўшы гармонію індустрыяльных пейзажаў. Пэўная частка нарыса адведзена знаёмству з творамі мастака, што нарадзіліся пасля паездак па краіне.**

**У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстаны рэпрадукцыі пяцідзесяці адной работы С. Каткова. Сярод іх такія творы, як «Асенні пейзаж», «На Бярэзіне», «Зімою ў вёсцы», «Раённы цэнтр», «Добры дзень» і іншыя.**

**К. ЗАХАРЧУК.**

## РАБОЧЫЯ ПРА РАБОЧЫХ

**Сваю чарговую работу — спектакль па п'есе «Дзівак-чалавек» В. Азернікава, прэм'ера якога нядаўна адбылася, народны тэатр Палаца культуры Мінскага трактарнага завода прысвяціў XXVII з'езду КПСС. Гледачы цёпла сустрэлі выступленні А. Баданіна, А. Варовіча, Г. Санкоўскага, Н. Дубінянскай і іншых, якія днём працуюць у цэхах, а вечарам дораць са сцэны радасць прыгожага. Дарэчы, спектакль узнімае надзённыя праблемы з жыцця рабочага калектыву.**

**С. УЛАСАЎ.**

**ПРЭМ'ЕРЫ**



**XXVII з'езду КПСС Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага прысвяціў спектакль «Апошні наведвальнік» В. Дазорцава. Рэжысёр-пастаноўшчык — В. Маслюк, мастак — Ю. Тур. Ролі выконваюць народны артыст СССР Р. Янкоўскі, артысты У. Шэлестаў, Т. Хвосцікава і В. Саладзілаў.**

Сцэна са спектакля.

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

**МУЗЫКА**

# «ЗАЛАТОЕ ЗЕРНЕ» ЗБЕРАГЧЫ



Толькі што скончыўся канцэрт. Мы выступалі перад венгерскімі слухачамі. І зараз, позна вечарам, вяртаемся дадому ў інтурысцкім «Ікарусе» (нават завельмі прасторным усяго для трох выканаўцаў і аднаго кампазітара). Яшчэ неастылыя пасля выступлення, апладысментаў, адказаў на пытанні замежных гасцей, мы думаем кожны пра нешта сваё.

Я пазіраю на прыгожы, задумлівы профіль Вольгі Цішынай і прыгадваю ўражанні сённяшняга вечара. Выкананне спявачкай вакальнага цыкла С. Картэса «Развітанне» на тэксты Ф. Г. Лоркі і цыкла «Самотныя песні» аўтара гэтых радкоў на вершы Г. Ахматавай надзвычай уразілі аўдыторыю, якую складалі зусім не музыканты. Але мне здаецца, гэта і ёсць самае галоўнае — калі нават людзі, далёкія ад музыкі, разумеюць складаную мову сучаснага твора, усе псіхалагічныя нюансы яго вобразаў.

Неабходны «масток» паміж кампазітарам і слухачом — выразнасць выканаўцы. Выразнасць гэтая (выразнасць не толькі галасавой інтанацыі, але і дынамікі, пластыкі жэсту, мімікі) — галоўная вартасць, якая прываблівае кампазітараў да спявачкі Вольгі Цішынай. Менавіта ёй многія прапануюць свае новыя творы. Дарэчы, сённяшні канцэрт пацвердзіў і тое, што нават калі раманс выконваецца на не знаёмай для слухачоў мове, яго зразумеюць. Бо артыстычная выразнасць — гэта мова інтэрнацыяначальная, сусветная і гэтай мовай спявачка валодае дасканала. Здаецца, нашы венгерскія слухачы ўспрымалі ўсё, спачуваючы і гераіні Г. Ахматавай, для якой страта кахання азначае страту жыцця, і герою Ф. Г. Лоркі, які вельмі эмацыянальна пратэстуе супраць з'явы смерці...

Між іншым, аб розных мовах ў творчасці В. Цішынай. Відавочна, што выкананне камерна-вакальных твораў і оперных партый сусветнага рэпертуару на мове арыгінала заўсёды сведчыць пра высокую культуру спевака (канечне, пры ўмове дакладнасці інтанацыі і вымаўлення). Успамінаю, як яшчэ ў гады вучобы ў кансерваторыі ўразіла мяне выкананне Вольгай песень Б. Брытэна на стараірландскім дыялекце — у час сустрэчы з англійскімі студэнтамі. А рамансы І. Брамса на нямецкай мове, М. Карловіча — на польскай, не кажучы ўжо аб італьянскіх творах! Сведчанне прафесіяналізму таксама — здольнасць дасканала вывучыць твор за зусім кароткі тэрмін. Зноў прыгадваю нашы студэнцкія гады. Аднойчы на занятках па гісторыі замежнай музыкі высветлілася, што ў фанатэцы кансерваторыі адсутнічае адзін з рамансаў І. Брамса, патрэбных нам па вучэбнай праграме. Выкладчык прапанаваў Вользе падрыхтаваць і выканаць для нас той твор. І Вольга без лішніх слоў у кароткі час вывучыла і выканала твор, прычым, падкрэсліваю, выканала прафесійна і дакладна.

Уладзімір Салаухін адно з апавяданняў, прысвечанае працы спевака, назваў «Залатое зерне». Так, цудоўны падарунак прыроды — голас, гэта залатое зерне, якое так лёгка страціць. І гонар таму, хто, як гаворыць пісьменнік, не прапіў яго, не растраціў бяздумна. І не толькі здолеў зберагчы. А і дзякуючы агульнай музыкальнасці, уласнай культуры, шырыні ведаў, дзякуючы разуменню свайго прызначэння і палымянай любові да музыкі стаў здольны кранаць чалавечыя сэрцы і абуджаць у іх «пачуцці добрыя».

Нямала думак прыходзіць у сувязі з выступленнямі Вольгі Цішынай... Чаму і сёння яшчэ існуе меркаванне, што для спевака патрэбен толькі голас? Чаму яно існуе дасюль, калі не адно пакаленне спевакоў (толькі бессмяротны Фёдар Шаляпін — выдатны прыклад!) даказала, што недастаткова мець толькі гожы голас, каб стаць Мастаком. Наогул, чамусьці гэтае слова — мастак — апошнім часам амаль не ўжываецца ў адносінах да спевакоў. Часцей гавораць «вакаліст», нібы наўмысна звужваючы ролю спевака да функцыі: паказаць голас. Але паказаць голас — гэта ўсяго толькі паказаць, чым цябе адарыла прырода. А вось выканаць твор так, каб у ім загучала твая душа, адкрыць нават у хрэстаматыйным опусе нешта такое, з-за чаго ён загучыць ізноў свежа і непаўторна, калі ў ім адчуеш натхненне артыста, глыбіню і значнасць асобы музыканта, выразную дакладнасць вобраза — гэта і ёсць Мастацтва. Мастацтва і талент не вакаліста, а музыканта.

Калі В. Цішына займалася ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, яна здзіўляла настаўнікаў сваёй музыкальнасцю. Выкладчыкі такіх дысцыплін, як сцэнічны рух, рытміка і танец, казалі, што тут ёй дадзена ад прыроды многа і што для яе было б дастаткова займацца толькі вакалам. Ды ўсё ж яна ўпарта і самааддана працавала ва ўсіх напрамках.

Сёння можна ўжо казаць пра вынікі гэтай працы. Кожны твор: оперная партыя, камерныя творы П. Чайкоўскага, А. Арэнскага, Б. Брытэна ці сучаснага беларускага кампазітара — набывае ў выкананні спявачкі адметнасць. Вядома, чым больш адметны талент выканаўцы, тым больш індывідуальнае прачытанне ім нотнага тэксту, тым бліжэй момант пэўнага, скажам так, сааўтарства з кампазітарам, адкрыццё нейкіх сваіх нюансаў у музычным матэрыяле. Пасля прэм'еры «Івана Сусаніна» М. Глінкі ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР крытыка аднадушна вылучыла выкананне партыі Вані салісткай В. Цішынай — як поспех. Здавалася б, што новага можна ўнесці ў гэты вобраз? У вобраз наіўнага, чыстага душою падлетка, амаль дзіцяці, рысы характару якога так дакладна выпісаны і кампазітарам, і шматлікімі выканаўцамі? Але артыстка ледзь прыкметнымі штрышкамі падкрэсліла ў сваім Вані тую ўнутраную сілу, мужнасць, самаадданасць Радзіме — тыя рысы душы, якія і ствараюць Іванаў Сусаніных зямлі нашай.

Дарэчы, работа В. Цішынай у оперным тэатры сведчыць, як

# СВАТЫ

**(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).**

— Ой, што ж гэта я, гаспадыня, стаю?! — раптоўна, як апомніўшыся, пачала «дакараць» сябе Дошчачыха.— Госці з дарогі, прагаладаліся, а я прастарэкваю... Ядзечка, палі гасцям, няхай рукі мыюць, а я на стол падам...

Першы спаласнуў рукі дзядзька, а за ім — і Янка. Калі браў ад суджанай белы вышываны ручнік, дык зноў міжволі зірнуў ёй у вочы. Заўважыў: яны зыркія, смелыя, а яе вусны поўныя, прызыўныя, пад кірпатым носам — рэдзенькі светлы пушок. Шыя высокая, белая, вабная.

Хутка Дошчачыха запрасіла іх у белую хату.

Там сцены былі паклееныя шпалерамі, была падлога, кафляны стаяк. Абапал сцен стаялі тры драўляныя ложкі, засцеленыя прыгожымі дзяружкамі, на іх ляжалі горкі белых падушак. Над сталом вісела запаленая лямпа.

— Садзецеся, госцікі,— ветліва запрашала гаспадыня. — Ешце, што пастаўлена. На большае і на лепшае выбачайце. Цяжкі цяпер час на госці... Вялікага кормніка армія забрала.

Селі. Янка зноў апусціў вочы, пазіраў на стол — на гаспадарову высокую прыпацелую пляшку, на міскі з салёнымі баравічкамі, капустай, квашанінай, тушанай курыцай, хлеб, а таксама на сподкі, чаркі і відэльцы.

— На сённяшні дзень, пані Антося, гэта ўсё — пір на ўвесь мір! — пахваліў гаспадыню дзядзька Стась. — Большага і лепшага — грэх і чакаць. Не сакрэт, па-заможнаму жывяце.

— Калі працуеш, дык і маеш. Ды яшчэ ўсю зіму, як і ўсе людзі, пасцілі, ашчаджалі... Але для вас, што ні ест, усё — на стол... — Усміхнулася.

— Маеш дачку — трымай і ў глячку...

— Ды так, пані Антося,— пахітаў галавою дзядзька, глытаючы сліну. — Такая ўжо наша бацькоўская доля: адзін рукаў маю і той аддзяру для сваіх дзяцей...

Гаспадар, седзячы паміж дзядзькам Стасем і жонкаю, моўчкі наліў у чаркі на тонкіх ножках са сваёй пляшкі.

— Ну, за ваша здароўе ды за тое, што нас ушанавалі... — коратка і проста сказаў ён.

— На здароўечка,— дадала гаспадыня, памачыла толькі вусны і, як і дачка, паставіла на стол чарку поўнай.

Янка, закусваючы, цяпер, пры святле, разгледзеў: гэтая Ядвіга — канечне, не раўня Зосі, але і не зусім брыдкая, як кажа дзядзька.

«І, здаецца, не халодная...»

Пасля, калі за два разы выпілі яшчэ чарку гарэлкі-самагонкі (кабеты зноў толькі памачылі вусны), старэйшыя мужчыны загаманілі пра вясну, работу ў полі, рыхтуючыся, мусіць, перавесці гутарку пра запоіны і пасаг.

— Можа, дазволіце, пані Антося і панна Ядвіся, закурыць? — нечакана запытаў дзядзька, дастаючы пачак цыгарэт (звычайна ён курыў тытуньсамасад, а вось для сённяшняга вечара раздабыў «куплёнае»).

Дзядзькава просьба была нечаканай для Янкі: амаль усе мужчыны ў Янкавінах у белай хаце не курылі, самае вялікае смалілі на кухні, а то выходзілі (а каго і выганялі) на двор.

«Няўжо хоча фарсянуць?»

— Проша, пан Стась,— адказала гаспадыня.

Дзядзька раскрыў пачак, падаў гаспадару (той адмовіўся, бо, як сказаў не курыць), узяў цыгарэту і прыкурыў ад запалкі (карабок запалак яму падарыў Янка, прывёзшы яго аж з Масквы). Пусціў клуб дыму.

Першая не вытрымала дыму нявеста. Спачатку яна запырхала, а пасля зморшчылася, нібы ёй блажыла, а затым, затуліўшы рот рукою, імтанула з-за стала на двор.

мне здаецца, пра сапраўдную адданасць мастацтву: для гэтай артысткі няма спраў «вялікіх» і «малых». Напрыклад, лічаць непрэстыжнымі партыі розных жывёлін у дзіцячых спектаклях: Каза ў оперы А. Уладзігерава «Воўк і сямёра казлянят», Жаба ў «Церамецерамку», Варона ў «Чараўніку Смарагдавага горада». Вольга ніколі не адмаўляецца ад гэтых партый і не разумее, тых, хто заяўляе: «Пець звяроў не нанімаўся». Хіба не асалода — бачыць на спектаклях зацікаўленыя і ўдзячныя тварыкі дзяцей?..

Наогул, В. Цішына не баіцца выйсці на сцэну непрыгожай, агіднай, калі гэтага вымагае вобраз — як у оперы «Джардана Бруна» С. Картэса (Удава кніжнага гандляра). Калі ж ёй даводзіцца выступаць у ролі старых (напрыклад, Ахрасімава ў «Вайне і міры» С. Пракоф'ева), яна асабліва прыдзірліва грыміруецца, звяртаючы ўвагу на самыя дробязі аблічча. Сёй-той здзіўляецца: навошта, маўляў, яна грыміруе рукі ва ўзроставых ролях? Хто зверне ўвагу? Але пры стварэнні вобраза для актрысы дробязей няма. І хіба не выяўляецца яе дар пераўвасаблення ў оперы С. Пракоф'ева «Вайна і мір», дзе В. Цішына выконвае пяць роляў і на працягу аднаго спектакля з'яўляецца ў розных «узроставых катэгорыях»: ад'ютант Марата — юнак, а праз дзве карціны — Ахрасімава, якой 58 гадоў.

Я люблю розныя ролі Вольгі: мужнага і пяшчотнага Ваню ў «Іване Сусаніне» М. Глінкі, дзёрзкую, страсную і няшчасную Любку ў «Сівой легендзе» Д. Смольскага, нашу сучасніцу ў оперы Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця». І яшчэ адна роля магла б прынесці поспех артыстцы на сцэне — Матухна Кураж у аднайменнай оперы С. Картэса. Гэтую работу В. Цішынай мы ведаем, на жаль, толькі ў канцэртным варыянце.

Упэўнена: тая пластыка (пластыка інтанацый, дынамікі, рухаў, жэстаў), якая ўражвае ў канцэртных выступленнях В. Цішынай, немагчыма без вопыту працы на опернай сцэне. Я вельмі люблю камерную творчасць спявачкі, а ўсё ж з вялікай цікавасцю паслухала б яе ў новых оперных партыях, якіх чакаюць не толькі слухачы, але і сама артыстка. Я веру ў новыя творчыя адкрыцці Вольгі. Веру: усё, за што яна возьмецца, у выніку будзе цікава, таленавіта, выразна, самабытна.

...А зараз, калі мы амаль што ноччу вяртаемся з канцэрта і я гляджу на прыгожы, крыху стомлены твар Вольгі, я адчуваю вялікую ўдзячнасць да чалавека, артысткі, спявачкі, музыканта.

**Галіна ГАРЭЛАВА.**

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

**ВІНШУЕМ**

# НАСТАЎНІК НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

**Да 80-годдзя заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Лідзіі МУХАРЫНСКАЙ**



Калі пішаш артыкул з такой нагоды, натуральным здаецца расказаць пра жыццёвы шлях юбіляра. Спакусу гэтую тым цяжэй пераадолець, чым больш у яго жыцці адметных, неардынарных, а то і гераічных учынкаў. А хіба не гераізм — тое, што добраахвотна пайшла на фронт маладая жанчына, якая толькі-толькі, пасля бліскучага заканчэння двух факультэтаў Маскоўскай кансерваторыі, з галавой акунулася ў педагагічную і навуковую працу? Менавіта гэтак распарадзілася сваім жыццём у 1941 годзе педагог Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Лідзія Саулаўна Мухарынская. Цяпер разумееш: той учынак быў адзіна магчымы для яе. Высокая грамадзянскасць, рэдкая патрабавальнасць да сябе, уменне жыць па вялікім рахунку наогул у прыродзе Лідзіі Саулаўны, і апошняе дзесяцігоддзе яе жыцця сведчыць пра гэта не менш яскрава...

Глыбока ўражвае інтэнсіўнасць яе навуковай працы і, можна нават сказаць, нейкая новая якасць мыслення. Гэта выяўляецца і ў пашырэнні тэматыкі навуковых прац з улікам найноўшых дасягненняў сумежных навук (лінгвістыкі, палеапсіхалогіі і інш.), і ў яшчэ больш глыбокім асэнсаванні скразных для даследчыка тэм (генезіс, семантыка і эстэтычная сутнасць народнай музыкі, рытмічная і ладава-інтанацыйная будова напеву, пераемнасць у змене гісторыка-стылявых пластоў у музычным фальклоры), і плённым асваенні свабоднай і вытанчанай формы эсэ, у якой Мухарынская ўвасобіла творчыя партрэты духоўна блізкіх ёй асоб.

**Плён апошняга дзесяцігоддзя — гэта і фундаментальная манаграфія «Беларуская народная песня: гістарычнае развіццё» (Мн., 1977), і даследаванне «Да пытання аб эстэтычным асваенні рэчаіснасці ў сучаснай беларускай народнай творчасці» (Л., 1982), і метадалагічна накіроўваючая праца «Некаторыя праблемы палеапсіхалогіі і музыка. Да пытання пра фарміраванне карнявога пласта напеваў у творчасці земляробчых народаў Усходняй Еўропы» ў зборніку «Musika antikva» (па матэрыялах міжнароднага сімпозіума па старажытнай музыцы, Быдгашч, ПНР, 1982). Гэта і падрыхтаваны да друку зборнік артыкулаў, дзе шырока прадстаўлены работы па метадалогіі даследавання народнай песні, гісторыі навукі, па востра актуальных праблемах савецкага этнамузыказнаўства. Будуць у зборніку і яскравыя творчыя партрэты этнамузыказнаўцаў Р. Шырмы, Я. Гіпіуса, К. Квіткі, кампазітараў Д. Шастаковіча, М. Мяскоўскага, К. Караева, музыкантаў-выканаўцаў М. Юдзінай, М. Грынберг. І ва ўсіх артыкулах — уласцівая Мухарынскай тонкасць аналізу, нібы запрашэнне чытача да сумеснага роздуму.**

Такі творчы ўзлёт ва ўзросце «заслужанага адпачынку» можа здацца неверагодным, але для Лідзіі Саулаўны ён зусім заканамерны. Напружаны творчы пошук — на працягу ўсяго яе жыцця: і тады, калі юная студэнтка кансерваторыі самастойна асэнсоўвала канцэпцыю свайго славутага настаўніка К. Квіткі, і тады, калі маладая медсястра ў жорсткіх франтавых абставінах абдумвала планы будучых работ аб працэсе нараджэння, станаўлення і развіцця песень барацьбы, і тады, калі вядомая далёка за межамі Савецкага Саюза даследчыца рэвалюцыйнай і партызанскай песнятворчасці выступала на міжнародным форуме разам з вядучымі спецыялістамі ў гэтай галіне В. Штайніцам, Д. Нядзелькавічам, І. Ламель.

Пра Мухарынскую — вучонага, грамадзяніна, ветэрана вайны можна было б гаварыць бясконца. Мы ж, яе былыя студэнткі, хацелі б зараз сказаць пра тое, якое месца займае Лідзія Саулаўна ў нашым жыцці і — упэўнены — у жыцці ўсіх яе вучняў.

**Студэнты-музыказнаўцы ў кансерваторыі, у адрозненне, скажам, ад піяністаў, скрыпачоў, вакалістаў, кампазітараў, не маюць пэўнай прафіліруючай дысцыпліны: спецыяльнымі для іх лічацца многія. Адпаведна і педагогаў многа. Для нас абедзвюх, калі мы прыйшлі вучыцца ў нашу кансерваторыю (падумаць толькі, гэта было амаль 30 гадоў назад!), і Лідзія Саулаўна, здавалася б, павінна была стаць адным з многіх педагогаў па спецыяльных дысцыплінах. Аднак вельмі хутка мы зразумелі, што сярод усіх выкладчыкаў — людзей увогуле таленавітых, часам вельмі каларытных, дасведчаных, вартых пашаны — менавіта Мухарынскай наканавана пачэсная доля Настаўніка.**

Нават смешна цяпер успомніць, як мы яе баяліся па першым часе! Пра экзамены ў Мухарынскай складаліся легенды. Рыхтуючыся, мы не ведалі ні сну, ні адпачынку, худзелі ад пераноскі з кансерваторскай бібліятэкі дамоў і назад дзесяткаў таўшчэзных клавіраў, партытур, манаграфій, фальклорных зборнікаў, вызубрывалі на памяць сотні народных песень... А што было б, калі б мы ўсяго гэтага не рабілі? Напэўна, ніякага страшэннага для студэнта пакарання не адбылося б. Не помнім, каб у экзаменацыйных ведамасцях дабрэйшай Лідзіі Саулаўны стаялі калі-небудзь дрэнныя ацэнкі. У кожным студэнце яна шукала калі не талент, дык па меншай меры вялікія здольнасці, да кожнага падбірала індывідуальны ключык. Проста нейкім шостым пачуццём мы адразу ўлавілі, што жыццё Мухарынскай мае цвёрды маральны стрыжань, падпарадкавана «катэгарычнаму імператыву», які не мог не ўздзейнічаць нават на самых бестурботных студэнтаў. Як цяпер мы разумеем, такая здольнасць уплываць значыць для педагога больш, чым бліскучае лектарскае майстэрства або бездакорная метадычнасць у пабудове курса.

Маральнае ўздзеянне нашага настаўніка мы адчуваем і сёння. З гадамі, мабыць, і мацней. Атмасфера высокай духоўнасці і сардэчнай таварыскасці заўсёды акружала і зараз акружае Лідзію Саулаўну. Гэтая атмасфера робіць сціплы, багаты толькі на кнігі і ноты дом Мухарынскай прыцягальным для калег, былых студэнтаў, для дарагіх яе сэрцу аднапалчан, для партызан, з якімі яе звялі дарогі даследчыка песень барацьбы. Лідзія Саулаўна трымае ў полі зроку сотні людзей, уважліва і любоўна сочыць за прафесійным развіццём сваіх вучняў, радуецца поспехам, спачувае і дзейсна дапамагае, калі да каго-небудзь прыходзіць бяда... А ўспомніць: колькі кніг яна перадарыла ўсім нам! Прычым, кніг не выпадковых, для кожнага — сваіх, адпаведных навуковым інтарэсам, музычным і літаратурным густам!

Менавіта Мухарынская перадала большасці з нас любоў да беларускага фальклору. І ў жыцці аўтараў гэтых радкоў была фальклорная экспедыцыя на Лоеўшчыну, на беларуска-украінскае пагранічча. Адна з нас выбрала прафесію фальклырыста, і за той экспедыцыяй пайшоў бясконцы ланцуг іншых, новых; для другой студэнцкая экспедыцыя засталася адзінай на ўсё жыццё. Аднак для нас абедзвюх вандроўка тая незабыўная, як першае каханне. Помняцца і запісаныя тады песні, хаця б жамчужына мужчынскай сацыяльнай лірыкі «Ой, забялелі снежкі» — першы на нашай памяці жывы ўзор спеваў з падводкай («гаравіком», як гавораць у нас на поўдні).

**Многіх з нас захапіла Лідзія Саулаўна і сваім стаўленнем да Баха і Шастаковіча — самых блізкіх ёй кампазітараў ва ўсім неабсяжным свеце музыкі. Яна вучыла нас не пасіўна спажываць любімую музыку, але і дзейсна прапагандаваць яе. Шастаковіч у жыцці Мухарынскай — тэма для асобнай размовы. Мы ж нагадаем толькі такія факты, як паездкі Лідзіі Саулаўны на дзень у Маскву ці ў Ленінград, каб паслухаць новы яго твор; як арганізацыя ў кансерваторыі дзвюх шастаковічаўскіх канферэнцый; як усхваляванае выступленне па радыё ў дзень 25-годдзя з дня першага выканання яго фартэпіяннага квінтэта; як цяперашні цыкл радыёперадач пра ўсе квартэты Шастаковіча...**

Пражыць жыццё, цалкам пазбаўленае эгацэнтрызму, напоўненае свядомым служэннем грамадству, абранай справе, людзям, бездакорна чыстае ў намерах і ўчынках — гэта доля шчаслівая, хаця і цяжкая. А мы, яе вучні, шчаслівыя ўжо тым, што яна жыве побач з намі.

Отдавай — и дрожащей рукой
не тянись за наградой.
Все сердца открываются
этим ключом,—

гэтымі паэтычнымі радкамі, напісанымі быццам пра Лідзію Саулаўну Мухарынскую, мы і закончым расказ.

**Зінаіда МАЖЭЙКА,**
**Алена САЛАМАХА.**

— У нас у хаце ніхто не курыць, дык вот і... — здаецца, разгубіўшыся, пачала апраўдвацца гаспадыня.

— Выбачайце,— нібы засаромеўся дзядзька, наслініў палец і патушыў недакураную цыгарэту. Аднак яе не выкінуў, схаваў у разарваны пачак.

— Маю дурную прывычку: абы з'еў чаго — адразу цыгарэту ў рот...

— ...не чула ніколі ў хаце дыму, дык вот і незалюбіла... — вяла сваё гаспадыня.

— Яно не сакрэт, усяк бывае... — ужо не пазіраючы на гаспадыню, прамовіў дзядзька. — Адзін цыгарэтнага дыму не любіць, другі — духоў, трэці — паху газы...

— Дзе ж яна? — занепакоілася гаспадыня і неўзабаве, папрасіўшы выбачэння, таксама выйшла з хаты.

Гаспадар сядзеў моўчкі, як набраўшы ў рот вады. Пасля схамянуўся і неяк няшчыра запытаў:

— Дык, можа, пан Стась, яшчэ вып'ем?

— Не, дзякую, пан Зэнусь. Больш трох разэў не п'ю. Хваціць. І так галава закружылася,— адказаў дзядзька. Чагосьці нібы збянтэжыўся, зніякавеў.

— Можа, напаіць вашага каня, пан Стась? — замітусіўся гаспадар.

— Зрабеце ласку, пан Зэнусь.

Тут жа гаспадар падхапіўся і патупаў з хаты. Услед за ім падскочыў, як апараны, і дзядзька, шчыльна зачыніў за гаспадаром дзверы і, нахіляючыся, зашаптаў на вуха:

— Дрэнь дзялы, хлопец. Трэба даваць адгэтуль драла. І як найхутчэй.

Янка здзівіўся і пазіраў на дзядзьку няўцямна.

— Нічога не зразумеў?

Янка пацiснуў плячыма.

— Малады яшчэ, не хітры, —ціха прамовіў дзядзька. — Не сакрэт, гэтая Ядвіга хацела даць табе хвігу... Яна акабечаная ўжо...

Янку раптоўна льнула кроў да галавы, аж зашумела ў вушах: ён добра ведаў, што значыць, калі гавораць, што «дзяўчына ўжо акабечаная».

— Старога вераб'я на мякіне не падманеш... — зашаптаў дзядзька. — Не першы раз у сваты маладых важу... Бачу: не выходзіць пры святле, толькі пры цемнаце паказалася... Мяса не есць... Хм, думаю, можа, і так сабе. Дай, думаю, праверу, як ужо не раз правяраў. Закуру, дым пад нос пушчу. Усё добра — дык і будзе добра. Калі грубая часамі — дык дыму не выцерпіць... А калі закурваў, дык бачу: у бацькі рукі калоцяцца. Ён жа курыць, пальцы вунь якія жоўтыя, але не хацеў цяпер курыць... Пшыкнуў дымам — бачыў, як марсянула з-за стала?! Вэт цяпер сам рашай: ці браць з такім ужо набыткам, ці, кажу, даваць драла, не гаворачы ні пра якія пасаг...

Янка разгубіўся, не чакаючы такіх Дошчачкавых хітрыкаў.

— Рашай. Бо мне ад твайго бацькі будзе падзяка альбо кульбака... Бярэш такую?

— Не.

— А зямля?

— Не хачу **т а к о й** зямлі...

— Тады трэба ўцякаць. Але ні з таго, ні з сяго няёмка бегчы, калі за сталом пасядзелі, хлеб-соль узялі. Але ж трэба нешта прыдумаць, каб апраўдацца. Інакш жа зганьбяць, яны штосьці наплятуць на нас... Ведаеш што: вазьмі зараз і брыкні на дол. Качайся, енчы, губы кусай... Увойдуць у хату — я скажу: кантузіла на вайне, дык вот падучая. Толькі не дай бог, не зарагачы...

Янка сумеўся: зусім не хацелася прыдурнівацца ды прыкідвацца, што мае такую страшную хваробу. Увазнаюць усе вакол — дык людзі будуць баяцца сустрэцца з ім на адной дарозе.

(Заканчэнне на стар. 12).

# Гродзенская рэстаўрацыйная

У канцы XI стагоддзя на крутым узгорку правага берага Нёмана ўзнік горад, якому быў суджаны вялікі лёс — Гарадзень, Гарадня, Гродна. Шматлікія гераічныя і трагічныя старонкі гісторыі нашай зямлі звязаны з Гродна і Гродзеншчынай. Калісьці гэты рэгіён Беларусі называўся «Чорнай Руссю» і «Літвою». Навагрудак, цяпер раённы цэнтр Гродзенскай вобласці — першая сталіца Вялікага княства Літоўскага. Гэты горад пераняў дзяржаўна-гістарычную спадчыну Полацкай Русі. Тут захаваліся рэшткі старажытнага замка, Барысаглебская царква — узор беларускай готыкі, Фарны касцёл, дзе вялікі князь Літоўскі і польскі кароль Якаў Андрэевіч (Ягайла) браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай (гэты шлюб паклаў пачатак дынастыі Ягайлавічаў на польскім прастоле). Гродзеншчына — гэта шэдэўры царкоўна-абарончай архітэктуры ў Сынкавічах і Мураванцы, гэта Мірскі, Лідскі, Крэўскі і Гальшанскі замкі.

Ёсць чым ганарыцца і самому Гродна. Барысаглебская (Каложская) царква — адзін з нямногіх на Русі помнікаў дойлідства XII стагоддзя, Стары і Новы замкі, касцёлы і кляштары бернардзінцаў, брыгітак, езуітаў, францысканцаў, манастыр базільянак, шматлікія помнікі грамадзянскай архітэктуры са стылявымі рысамі барока, класіцызму, мадэрна, канструктывізму.

У часы Стэфана Баторыя горад быў каралеўскай рэзідэнцыяй, фактычнай сталіцай Рэчы Паспалітай. Гродна — адзін з галоўных эканамічных цэнтраў дзяржавы, слаўны сваёй навукай і мастацтвам. Тут дзейнічала медыцынская акадэмія — першая ў Рэчы Паспалітай, першая на тэрыторыі нашай краіны медыцынская вышэйшая навучальная ўстанова. У Гродне — першая ў Рэчы Паспалітай балетная трупа. Гродзенскае шкло, шпалеры — важная з'ява ў гісторыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі і ўсёй Усходняй Еўропы.

Гродна памятае заняпад Рэчы Паспалітай — тут падпісаў адрачэнне ад прастолу апошні кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — і рэвалюцыйныя падзеі 1830 і 1863—64 гадоў. Менавіта на Гродзеншчыне і Віленшчыне паўстанне Кастуся Каліноўскага мела найбольшы размах. Гэты край апеты і ўслаўлены Адамам Міцкевічам. З Гродна звязаны імёны Элізы Ажэшка і Максіма Багдановіча.

Гродна — адзін з нямногіх гарадоў Беларусі, дзе захаваўся гістарычны сілуэт і планіроўка, дзе адчуваеш сувязь часоў. Але і для Гродна існуе праблема зберажэння і скарыстання гістарычных каштоўнасцей. Пра гэта пісалася і на старонках «ЛіМа» (Ю. Кішык, «Не парушыць ансамбль», 21.VIII.1981 і іншыя артыкулы). У гэтых трывожных сігналах выказвалася глыбокая заклапочанасць грамадскасці лёсам старога горада. Таму вялікай і доўгачаканай падзеяй для гродзенцаў, для ўсіх, каму блізкі і дарагі наш горад, стала адкрыццё ў ім філіяла аб'яднання «Белрэстаўрацыя». Пра першыя крокі гродзенскай рэстаўрацыі гавораць тыя, хто мае да гэтай справы непасрэднае дачыненне.

**А. Ф. Самуйлаў, дырэктар Гродзенскай міжабласной спецыяльнай навукова-рэстаўрацыйнай вытворчай майстэрні (СНРВМ):**

— Справа рэстаўрацыі горада, вядома, вельмі патрэбная і актуальная. Прыемна, што мы ад чыста тэарэтычных разважанняў пераходзім да практычных дзеянняў.

Перш за ўсё дзяржава выдзеліла неабходныя для кожнай вялікай справы фінансавыя сродкі. Сёлета нам трэба асвоіць 1 млн. 200 тыс. рублёў. Давайце параўнаем. Рэспубліканскія рэстаўрацыйныя майстэрні ў мінулыя гады асвойвалі крыху большую суму для рэстаўрацыі аб'ектаў па ўсёй Беларусі, а мы абслугоўваем толькі Гродзенскую і Брэсцкую вобласці.

Але наша майстэрня яшчэ ў стадыі фарміравання. Структура майстэрні будзе складацца з двух аддзелаў — будаўнічага, навукова-даследчага і праектнага. Перш за ўсё трэба ўкамплектоўваць вопытнымі майстрамі будаўнічыя ўчасткі. Нам вельмі патрэбны добрыя муляры, цесляры, кавалі. У гэтым годзе штат работнікаў майстэрні будзе даведзены да 250 чалавек. Але гэта не вельмі шмат, калі ўлічыць колькасць аб'ектаў у Гродне і вобласці, што падлягаюць рэстаўрацыі. На пачатак года мы вызначылі стварэнне базы матэрыяльнай, каб можна было забяспечыць шырокі фронт работ. Спадзяёмся на дапамогу Упраўлення культуры аблвыканкома і іншых абласных і рэспубліканскіх устаноў і арганізацый. Думаем, будуць чуйнымі да нашых праблем і жыхары горада. Чаму, скажам, не стварыць спецыяльны студэнцкі будатрад, які б у летні час працаваў на рэстаўрацыі.

Многае давядзецца зрабіць, таму не хочацца забягаць наперад. А зараз наша першая задача — стварыць працаздольны калектыў, стварыць матэрыяльную базу, «стаць на ногі» і пачаць працаваць так, каб не было сорамна перад тымі майстрамі мінулага, чыю работу нам аднаўляць, вяртаць ёй былую прыгажосць.

**В. І. Краўчанка, загадчык навукова-даследчага бюро Гродзенскай міжабласной СНРВМ:**

— Пачатак работы наша навуковае падраздзяленне звязвае з яснай і дакладнай пастаноўкай задачы. Зараз мы яшчэ толькі падбіраем неабходных спецыялістаў, якія павінны праводзіць у вобласці пашпартызацыю помнікаў, іншыя даследчыя работы, якія папярэднічаюць непасрэдна рэстаўрацыі і рэканструкцыі. Трэба шчыра прызнацца, што вопыту такой работы ў нас пакуль што няма. Так што давядзецца адначасова працаваць і вучыцца. Напачатку нам будуць дапамагаць нашы калегі з Мінска. Будзем ездзіць на стажыроўку ў сталіцу рэспублікі, а таксама ў Літву, дзе справа рэстаўрацыі пастаўлена на належны ўзровень. Не трэба забываць і пра нашу патэнцыяльную базу — Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, які з часам будзе пастаўляць нам кадры гісторыкаў, даследчыкаў.

Працэс даследавання кожнага помніка патрабуе руплівай работы ў архівах, вывучэння разнастайных гістарычных крыніц. Ад гэтага залежыць і канчатковы вынік работы з аб'ектам.

Рэстаўрацыя — гэта толькі палова справы, не менш важнае пытанне прыстасавання помніка мінулага да патрэб сённяшняга дня. Прыгадаю дыпломную работу выпускніка Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (аддзяленне «Інтэр'ер і абсталяванне») І. Ганеева «Рэканструкцыя з прыстасаваннем для гандлёвай і выставачнай зоны дамоў 25—27 на вул. Савецкай». Работа маладога мастака часткова будзе выкарыстана ў нашай працы.

У гэтым годзе мы плануем распрацоўку дакументацыі і на 28-мі аб'ектах у горадзе і вобласці. Сярод іх Стары замак у Гродне, царква абарончага тыпу ў Мураванцы, касцёл ў Гайцюнішках і інш. Адным з першых аб'ектаў рэстаўрацыі ў гэтым годзе будзе будынак XVII ст. на вул. Дзяржынскага. Там пасля рэстаўрацыі размесціцца маладзёжная кавярня. Словам, працы хапае, але самае цяжкае пачаць, зрушыць справу з месца.

**А. У. Бабіцын, галоўны мастак горада:**

— Не будзе перабольшаннем, калі сказаць, што адкрыццё рэстаўрацыйнай майстэрні ў нашым горадзе будзе актыўна спрыяць вырашэнню шматлікіх горадабудаўнічых праблем. Да гэтага часу рэстаўрацыя плошчаў, вуліц і асобных будынкаў горада рабілася без уліку іх гістарычнай і мастацкай каштоўнасці. Па сутнасці функцыя знішчала вобраз. Асабліва цярпяць старадаўнія будынкі ад капітальных рамонтаў, якія вядуцца звычайнымі рамонтна-будаўнічымі арганізацыямі. Для аднаўлення старадаўняй архітэктуры не хапала ні вопыту, ні ведаў. Не было нават расцэнак на такія работы. Можна зразумець будаўніка, якога падцiскаюць тэрміны, можна зразумець бухгалтара, які не можа дазволіць перавышэння сметы. Але ці зразумеюць нас нашчадкі, калі параўнаюць Гародню па старажытных гравюрах і Гродна, у якім ім давядзецца жыць? Ці знойдуцца словы, каб нас апраўдаць, ці варта ўвогуле шукаць апраўданне нядбайнасці і абыякавасці?

Дарэчы, асобныя прыклады неблагой рэстаўрацыі ў Гродне былі. Узяць, напрыклад, адрамантаваны будынак адміністрацыі Гродзенскага рамонтна-будаўнічага трэста «Будбытрамонт» па вуліцы Ажэшка. Добра ўпісаўся гэты дом з чырвонай дахоўкай, радам акон у каменных ліштвах у стылі XIX ст. у архітэктуру вуліцы. Але быў і адваротны бок медаля. Давялося пісаць у міністэрства лісты з просьбай запліцаць за работу «ў парадку выключэння», і гэта было, бадай, самым цяжкім этапам усёй работы.

І калі ў Гродне з'явілася рэстаўрацыйная майстэрня, дык такія праблемы самі сабою знікаюць. І можна смела зараз планаваць усё неабходнае, каб горад з кожным годам станавіўся ўсё больш прыгожым і ўпарадкаваным. Тут і паўстае задача — добрае ўпарадкаванне паркаў, рэчышча Гараднічанкі, стварэнне вакол помнікаў суцэльных гістарычных зон.

Гродзенская рэстаўрацыйная майстэрня робіць першыя самастойныя крокі. Пажадаем ёй плёну.

Яўген ШУНЕЙКА.

# СВАТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—11).

— Не бойся,— вучыў дзядзька. — І мы пра іх, і яны пра нас маўчаць будуць... Бо нікому не будзе карысці малоць языкамі адным пра аднаго.. — І, пачуўшы тупат у сенцах, зашыпеў гусаком: — Ну! Валіся! Курчся, стагні!

Янка бухнуў з зэдліка на падлогу — тварам да сцяны. Як і вучыў дзядзька, застагнаў ды закурчыўся.

— А божачка! — адразу ж пляснула рукамі гаспадыня, як толькі ўвайшла ў пакой. — А што ж з вашым маладым, пан Стась?

— Бяда, пані Антося,— завохкаў дзядзька, з сілаю мнучы Янку паранены плячук, што Янка хацеў ці не хацеў, а напраўду ўжо мусіў цярпець і ныць. — Не сакрэт, выпіў крыху, дык вот і кінула... Я ж казаў пану Зэнусю: яго параніла. Аж яго яшчэ і моцна кантузіла. У галаву. Дык, бывае, і кідае раз, а то і два разы на тыдзень... Добра, што цяпер ціхі, а дома, бывае, кідаецца, можа ўсё ў хаце перабіць...

«Ну і брахун стары!» — слухаючы гэтыя дзядзькавыя складанцы, думаў Янка.

— О, божачка! — заспачувала гаспадыня, канечне, ужо не хочучы ўпіхнуць сваю грэшную дачку такому хвораму чалавеку.

— Трэба яго на двор вынесці, на свежы дух... — сказаў дзядзька, а затым, нагінаючыся, шапнуў: — Ашчэр зубы, вочы вылупі...

Тут жа старыя, крэкчучы, пачалі выцягваць яго, важкага, ашчэранага, на ўцямнелы ўжо двор — да воза.

Спехам падзякаваўшы за пачастунак, папрасіўшы выбачэння і нават не ўспамінаючы пра запоіны, дзядзька пачаў разварочвацца і выязджаць з двара. Дошчачкі не затрымлівалі, па-сапраўднаму ці толькі дзеля прылічку бедавалі, спачуваючы ды праводзячы да дарогі.

Дзядзька паганяў каня, каб той нёсся на ўвесь дух. І ўжо за вёскаю абурыўся:

— Эйш, хітруны! Мяне, старога вераб'я, янкавінца, хацелі абдурыць! Думалі, што аслы, словамі ласкавымі, гарэлкаю, пачастункам вочы, розум затуманяць... Не-э! Нас можна запалохаць, набіць, але нас не абхітрыш. Я хітрыкі вашы адразу ўбачыў: на губах — мёд, а на сэрцы — лёд...

У Янкі ж не было вялікай злосці на Дошчачкаў, на іхнюю спакушаную некім дачку — наадварот, ён шчыра спачуваў ёй. Лежачы на здаровым баку, рашыў сабе: усё больш сёлета нікуды ў сваты не паеду. Не буду завіхацца жаніцца.

— Не гаруй,— па-свойму зразумеў яго маўчанне дзядзька. — Багатырэ багатырамі, зямля зямлёю, а, не сакрэт, не надта вялікі гонар з імі парадніцца. У іх і коні, і каровы, і свінні горшыя, чым у нас, і самі яны цямнейшыя, дурнейшыя, і гутарка ў іх горшая за нашу! Не сакрэт, чалавека з нашай вёскі аж люба паслухаць, як ён гаворыць, а яны і картавяць, і гугнявяць. Адным словам, прудзяне. Мужыкі... Не раўня нам, местачкоўцам...

Янка ні згаджаўся, ні супярэчыў, хоць адчуваў: дзядзька перабольшвае, наўмысна нагаворвае на прудзян. Яны такія ж самыя людзі, як і ўсе астатнія.

— Не гаруй, кажу,—супакойваў ці сам супакойваўся дзядзька. — Хлопец малады, відны — без жонкі не застанешся. Апытаем, знойдзем харошую і багатую дзяўчыну ў Налібаках ці ў Дзераўной. Альбо ў тым жа Брынічаве...

# ЛЯЖАЧЫ КАМЕНЬ

(Працяг. Пачатак на стар. 4).

няй у большы і меншы бок. Пры пяці тысячах у сярэднім на адзін двор большасць мае прыхаваную капейку, можа, і не такую ўжо вялікую, але на першы ўзнос, калі б ён вызначаўся ў дзве-тры тысячы, у многіх наскраблося б. Прытым усе цяпер у вёсцы добра адзеты і добра абуты, і харчуюцца не горш за гараджан.

Анатоль Уладзіміравіч дапускае, што першы ўзнос можа быць паменшаны да дзвюх-трох тысяч. Але ж кошт забудовы сядзібы не знізіцца. Таму павялічыцца штогадовая выплата крэдыту.

Рымша ўпэўнены, што і з павышанай штогадовай выплатай крэдыту кожная сельская сям'я зможа справіцца. Раней гадавая выплата крэдыту вызначалася ў дзвесце пяцьдзесят — дзвесце семдзесят рублёў, у залежнасці ад тыпу дома, цяпер узрасла да трохсот шасцідзесяці — чатырохсот рублёў. Адкармі аднаго кабанчыка або здай заготжывёле бычка ці цялушку-пералетку, прадай малака цэнтнераў дзесяць дзяржаве, то і на крэдыт хопіць, і на хатні абыходак застанецца. Можа, нават і ў панчоху можна будзе нейкую капейку засунуць, — па-гаспадарску разважае ён.

— Ёсць другая закавыка, — кажа Віктар Міхайлавіч, звяртаючыся да Жаўняркевіча.

Ён нагадвае, што калгасам і саўгасам дазволена будаваць сядзібныя дамы цалкам за кошт гаспадаркі і прадаваць іх калгаснікам, рабочым, інтэлігенцыі за палавіну кошту, у крэдыт, з выплатай яго на працягу дваццаці гадоў.

Даменікоўская згаджаецца, што гэты спосаб з'яўляецца канкурэнтам кааператыўнага. Ён мае тую перавагу, што пакупнікам дамоў не трэба плаціць высокага першага ўзносу. І ўсё ж перавагу, лічыць яна, мае кааператыўнае будаўніцтва. Забудоўшчыкам выгадней уступаць у будаўнічыя кааператывы, чым купляць гатовы дом, пры адной умове, што першы ўзнос невысокі. У кааператыве члены яго самі выбіраюць дамы па сваім гусце, наглядаюць за ходам будаўніцтва яго. А гатовы дом купіш такі, які пабудуюць. Выгадна і калгасам. Грошы, якія ляжаць у ашчадных касах, будуць скарыстоўвацца. Дадатковыя сродкі. А сума іх штогод расце.

— Расце і растае... Адначасова. Не ляжаць гэтыя грошы, — не дае ёй закончыць думку Анатоль Уладзіміравіч. — Разгульныя вяселлі, хрэсьбіны... А яшчэ—цякуць ашчаджоныя грошыкі ў гарады... Нашчадкам на кааператыўныя кватэры, імпартную мэблю, на «Жыгулі». А ў вёсцы мы ківаемся: то налог высокі, то наогул з грашыма туга.

Віктар Міхайлавіч узгоднена ківае галавой.

— Паток людзей цячэ ў горад і грошы, зробленыя тымі, хто застаўся ў вёсцы, плывуць услед... З'ява сур'ёзная. Сельская гаспадарка ад гэтага не багацее, а вёска не робіцца прыгажэйшай. Якімі сіламі гэту плынь павярнуць назад?! — пытае ён у Жаўняркевіча і, не чакаючы адказу, схіліўшы галаву ў задуме, захадзіў па пакоі.

— Павярнуць... Давайце будзем практычна вырашаць гэту задачу — як стварыць умовы для разгортвання кааператыўнага будаўніцтва ў вёсцы, — прапаноўвае практычная Хрысціна Канстанцінаўна. — Гэта якраз, Віктар Міхайлавіч, і ёсць адзін з тых сродкаў, якія памогуць і людзей у вёсцы затрымаць і іхнія накапленні разумна скарыстаць.

— Павярнуць, павярнуць... Як ты той паток павернеш, калі людзі не хочуць уступаць у будаўнічыя кааператывы?! — раскідвае шырокія далоні Жаўняркевіч. — Які сэнс другому ўступаць і выплачваць крэдыты дваццаць пяць гадоў па сорак рублёў штомесяц, калі кватэрная плата не перавышае дзесяці — дванаццаці рублёў? Другі ведае, што ён патрэбен калгасу, саўгасу і яму кватэру дадуць, — зноў шчырую праўду кажа Анатоль Уладзіміравіч.

Хрысціна Канстанцінаўна згаджаецца, што ёсць і такі настрой у некаторых. Жміндзіцца іншы, грашыма матрац набівае, а на будаўніцтва капейкі не дасць. Але не ўсе такія. Далёка не ўсе. Большасць хацела б уступіць у кааператыў, мець уласны дом, сядзібу, але ўмовы...

Доказам таго, што многія жадаюць будаваць уласны дом сучаснага тыпу, яна называе шырокую цягу ў будаўнічыя кааператывы ва ўсіх гаспадарках раёна да павышэння цэн. Цягнуцца ў кааператывы найперш маладыя сем'і. Нават і цяпер ствараюцца новыя кааператывы. У калгасе «Новае жыццё» забудоўваюцца сядзібы другога кааператыву, складваецца трэці, у які, дарэчы, хочуць уступіць два халасцякі — Алесь Карачун і Мікола Пахвалёны, абодва электрыкі.

У кааператыў уступіў намеснік старшыні калгаса, сакратар парткома Іосіф Іосіфавіч Кур'ян, які мае трохпакаёвую кватэру ў калгасным доме. Мае такую ж кватэру і загадчык малочнай фермы Мікалай Уладзіміравіч Раманчук, які таксама падаў заяву ў будаўнічы кааператыў. Свой дом з сядзібай не тое, што кватэра ў шматпавярховым. Разумны чалавек на гэта грошы не пашкадуе. Кааператыўнае будаўніцтва жылых дамоў у раёне не спынілася. Стварылі кааператыў, і пачалося будаўніцтва дзесяці дамоў у калгасе «Рассвет». Ствараюцца кааператывы ў калгасах «Слава» і «Першае мая». І ў калгасе імя Леніна будзе аднаўлены жыллёвы кааператыў пасля завяршэння будаўніцтва свінакомплексу. Разам з тым мае субяседнікі ў адзін голас падкрэсліваюць, што ўмовы кааператыўнага будаўніцтва ўскладніліся. Высокі кошт будаўніцтва дамоў стрымлівае развіццё будаўнічай кааперацыі.

Хрысціна Канстанцінаўна выказвае перакананне вопытнага эканаміста, што цяпер, пры павышаных цэнах, каб палепшыць умовы ўступлення ў СЖБК, трэба шукаць шляхоў зніжэння кошту забудовы сядзібы. Перш-наперш яна лічыць крайне неабходным паменшыць першы ўзнос. Высокі першы ўзнос — гэта той парог, які замінае абсалютнай большасці сялян, калі не ўсім, уступаць у СЖБК. Ён складае трыццаць працэнтаў агульнага кошту забудовы сядзібы — ад дзевяці да дванаццаці тысяч рублёў. Высыпаць на стол такія грошы адразу рэдка хто зможа. Першы ўзнос, на яе думку, не павінен перавышаць дзесяці працэнтаў кошту забудовы сядзібы.

Яна звяртае ўвагу на тое, што ў праектах забудовы сядзіб ёсць шмат непатрэбшчыны. Як знарок для вёскі праекціроўшчыкі выбіраюць самыя дарагія матэрыялы. А навошта... хлеў для хатняй жывёлы ставіць з цэглы? Хіба нельга знайсці дзешавейшыя матэрыялы?!

— Во, во, — перабівае яе Анатоль Уладзіміравіч, — сапраўды, хляўчук для каровы і кабанчыка абыходзіцца каля пяці тысяч рублёў! Ды хляўчук той — карове не павярнуцца.

— А навошта ў двары асфальтаваныя дарожкі? Ад ганку да веснічак, ад дома да хлява?! Наўкол дома?!. Ці не лепш было б засеяць гэтыя сцежкі-дарожкі траўкай-мураўкай? І прыгажэй, і ўтульнейшым быў бы двор. Ды і дзецям было б на радасць босенькім пабегаць па муражку.

— І дарослым больш карысна басанож пахадзіць па траўцы, чым па чорным асфальце. А гэтыя мёртвыя дарожкі ўлятаюць забудоўшчыку ледзь не ў тысячу рублёў! — падтрымлівае яе Жаўняркевіч.

— Чуеце? — звяртаецца да мяне Віктар Міхайлавіч. — Вось вам і дарагі дом. Цэны — цэнамі, але ёсць шмат недарэчнага, а можа, і безадказнага.

Ён тлумачыць мне, што непатрэбшчына ў сельскім будаўніцтве ідзе ад няправільнай аплаты працы ў праектных арганізацыях. Плацяць складальнікам праектаў ад каштарысу. Чым большы каштарыс забудовы сядзібы, тым вышэйшая аплата складальнікаў. Заганны стымул. І гэта за кошт селяніна. Мараль...

Хрысціна Канстанцінаўна ідзе далей у пошуках зніжэння кошту будаўніцтва. Яна лічыць неабходным пераходзіць да індустрыяльных метадаў будаўніцтва жылых дамоў у аграпасёлках і вёсках. Партыя паставіла задачу паскоранага развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, паскоранага рашэння сацыяльна-эканамічных праблем. Не з'яўляецца выключэннем і аграпрамкомплекс. Цяпер не толькі дамы, але і надворныя будынкі ставяцца з цэглы. Затрачваецца шмат ручной працы. Індустрыялізацыя значна знізіла б кошт забудовы.

Анатоль Уладзіміравіч ад падтрымкі Даменікоўскай зноў пераходзіць да пярэчання. Уласна, ён не столькі пярэчыць, колькі выказвае сумненне, шукае выйсце. Вяскоўцы, на яго думку, не захочуць жыць у панельных дамах, гатовыя часткі якіх — панелі, пліты на столь і іншыя — выпускаюць домабудаўнічыя камбінаты. А прамысловым спосабам цагляны дом не паставіш.

У падтрымку Хрысціны Канстанцінаўны называю маім субяседнікам будаўніцтва пасёлка «Жамчужны» ў Баранавіцкім раёне. Першы ў Беларусі вопыт індустрыяльнага будаўніцтва аднасямейных панельных сядзібных дамоў і надворных будынкаў у вёсцы. Мне даводзілася неаднаразова бываць у гэтым пасёлку і ў час будаўніцтва, і пасля засялення яго. Жыхары не скардзяцца на панельныя дамы, усе задаволены. Дамы светлыя, цёплыя, утульныя. І стаяць будуць не менш цагляных. Цэгла таксама паддаецца разбурэнню часам.

А ці далёка адышоў той час, калі сяляне не хацелі жыць у цагляных дамах? Мне даводзілася бачыць у калгасах Кобрынскага раёна ў шасцідзесятыя гады прыгожыя новыя цагляныя дамы, якія пуставалі. А патрэба ў жыллі была вострая. Многія вяскоўцы толькі што перабраліся з зямлянак у наспех скіданыя халупы. А цяпер паўсюдна лічыцца, што мець цагляны дом куды выгадней, чым драўляны. І жыць у мураваным доме зручней. Нават прэстыжна. Такі ж псіхалагічны бар'ер трэба пераадолець і ў адносінах да панельных дамоў. Для гэтага трэба шырэй разгарнуць... Бадай недакладна — разгарнуць. Можна разгарнуць шырэй тое, што пачата, што робіцца. На жаль, прапаганды новага ў сельскім будаўніцтве ніякай няма. Трэба распачаць *прапаганду новых дасягненняў* архітэктуры ў сельскім жыллёвым будаўніцтве, новых тыпаў дамоў, дамоў з новых будаўнічых матэрыялаў, арганізаваць экскурсіі для азнаямлення сялян з панельнымі дамамі ў натуры.

Усе ажыўлена спрачаюцца, перабіваючы адзін аднаго ўсё новымі і новымі доказамі пераваг кааператыўнага будаўніцтва і неабходнасці яго развіцця. Праўдзівей, гэта была не спрэчка, а вострая сяброўская гутарка — пошук рашэння важнай дзяржаўнай задачы, якая глыбока іх хвалюе. Усе яны «хвараюць» за непаладкі ў гэтай справе, якія не пакідаюць спакойным і мяне.

Наглядаю, як то паскарае крокі, то спыняецца і ўсё з большай энергіяй пярэчыць або падтрымлівае сваіх супрацоўнікаў Віктар Міхайлавіч Рымша; як прыгожа ружавее малады твар Хрысціны Канстанцінаўны Даменікоўскай; як хвалямі набягаюць і знікаюць дробныя маршчынкі на шырокім з вялікімі залысінамі лобе Анатоля Уладзміравіча Жаўняркевіча і думаю: калі б усе кіраўнікі вышэйраённага ўзроўню з тых, хто павінен непасрэдна адказваць за стан СЖБК, хваляваліся так за справу, як мае субяседнікі, значна паскорылася б выкананне тых задач, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай.



Вы бачыце на нашым здымку аднакватэрныя жылыя дамы з гаражамі ў пасёлку «Расна» калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна.
Фота В. БАРАНОЎСКАГА.

— Ці не зручней вам паставіць гэтыя пытанні перад адпаведнымі органамі, — звяртаецца да мяне Хрысціна Канстанцінаўна. — Зрэшты, у вас ёсць свая трыбуна, — газета, часопісы. Звярніцеся, як наш упаўнаважаны, да кіраўніцтва, да грамадскасці. Агульнымі сіламі можна вырашаць самыя складаныя справы.

Паўнамоцтвы высокія і адказныя.

Увесь час, калі я слухаў гутарку і спрэчкі супрацоўнікаў УКБ Нясвіжскага раёна, у мяне з галавы не выходзіла думка пра Уздзенскі раён. З усяго, што я пачуў ад маіх субяседнікаў, у мяне склалася цвёрдае перакананне, што ў Нясвіжскім раёне кааператыўнае будаўніцтва сядзібных дамоў не заглухне, будзе развівацца, а як жа там, у Уздзенскім? Нясвіжскі раён багацейшы. І ў гэтым не малая яго перавага.

(Заканчэнне будзе).

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

Уладзімір ПАЎЛАЎ

# А СПЯВАЎ ЁН ПРА ШЭРУЮ ВУЦЮ...

Не мной заўважана, толькі пацвярджаю: сама больш часу для чытання ў школьныя і студэнцкія гады. Паміж імі ў мяне, праўда,— амаль трохгадовая армейская служба, але яна толькі абвастрыла голад да чытання. Спраў у юнацтве загадвалася на ўсё жыццё, а парабіць іх хацелася адразу, і прачытаць усе кнігі адразу. Тады ўсё здавалася па сіле, усё можна здолець, усюды паспець. Свет абняць — і то: а чаму б не?! Як яны ўдаваліся, тыя справы, — гаворка іншая, а паспявалася сапраўды ўсюды. Амаль усюды!

У тыя шчаслівыя гады прачытаў я раман Міколы Ткачова «Згуртаванасць». Кніжак было мала. Усе даваенныя — калі не спалены ці не згараны, то скураны. Бібліятэкі ў школах, пры хатах-чытальнях месціліся ў адной шафе, бо ствараліся літаральна на голым месцы. У раённых газетах друкаваліся нататкі селькораў пра рост дабрабыту, у якіх расказвалася, што нехта купіў нікеляваны ложак, канапу, у некага завялася этажэрка і кніжкі на ёй. У той час працавалі кнiганошы — найбольш моладзь,— што насілі па вёсках кнігі з сельсавецкай хаты-чытальні. Пра такіх сёння ці чулі? Тэлевізараў не было, радыё — таксама, электрыка — не глыбей раённага цэнтра, ды і то не кожнага. Мястэчка з нейкім заводзікам і з дынамай на ім, а значыць і з лямпачкай з чырвоным напалам пры варотах здавалася новым і вялікім светам. Увесь вольны час, што знаходзіўся ў людзей, аддаваўся кнігам. Чыталі амаль усе, чыталі ненатольна. З'яўленне кожнага твора заўважалася амаль усёй рэспублікай. Памятаю — думаю, не адзін я — калі не змест, то назвы многіх і многіх раманаў і аповесцей шмат якіх савецкіх пісьменнікаў па спісах лаўрэатаў Сталінскіх прэмій першай, другой і трэцяй ступеней. Гэтыя спісы друкаваліся цэлымі газетнымі старонкамі. Адзначалася, як мне ўяўляецца сёння, усё больш-менш значнае, што ствaралася пісьменнікамі. Праўда, у тых вялікіх спісах не вельмі густа было беларусаў, як не знайшоў я і згаданага рамана Міколы Ткачова. І зноў-такі з вышыні сённяшняга дня, мне зразумела чаму: з-за нашай няўвагі да працы таварыша, непаваротлівасці, якія мы любім часта прыкрываць традыцыйнай беларускай сціпласцю. А яшчэ горш — дай бог памыліцца!— грызе нас рэўнасць да поспеху сабрата, зайздрасць. Не ўмеем мы радавацца за чужую ўдачу, не навучыліся яшчэ разумець, што кожнае прыстойна і хораша сказанае слова,— я ўжо не гавару — таленавіта!— наша агульная ўдача, наш агульны набытак.

Раман Міколы Ткачова «Згуртаванасць» пра ўсенародную барацьбу супроць захопнікаў і іх памагатых, пра партызанства. Я ўжо казаў пра голад на кніжкі. А тут — кніга пра добра знаёмае, пра тое, што адбілася ў дзіцячай памяці, быццам на кінаплёнцы. Пра тое, — якія-небудзь сем-восем гадоў назад, — што бачыў на свае вочы. Як людзі ішлі і ехалі ў партызаны. Помню імклівых жоўтых чмялёў за начным акном. Гэта ляцелі трасіруючыя кулі. Чую нямоўчнае тарахценне партызанскіх калёс. Спачатку ўночы, а з 43 года і ўдзень. У слых зноў урываецца лапатанне першамайскага сцяга, які вывесілі партызаны на вясковай пажарнай. Раман самой назвай гаварыў пра ўсенародны, братні характар барацьбы супроць нечалавечай навалы, супроць тых, хто прыйшоў нас панішчыць. Усіх. І ўсе ўсталі на вайну. Згуртоўваліся асобныя людзі і цэлыя народы. Раман напісаны, як прынята гаварыць, па гарачых слядах. Ён выйшаў у 1951 годзе. (Зазначу, што на той час твораў такой маштабнасці было не багата). У ім расказана, што партызанскі рух жывіла невычэрпная крыніца народнай падтрымкі. Гэта была кроўная справа ўсяго народа.

Пазней з вуснаў Міколы Гаўрылавіча, а найбольш з расказаў пра яго,— бо я не быў ні блізкім, ні davераным сябрам Ткачова, я быў таварышам па рабоце і прыяцелем па духу,— даведаўся пра некаторыя падрабязнасці напісання рамана.

Ткачоў быў на фронце, у партызанах. Яго цяжка кантузіла. З-за кантузіі, відаць, ён усё жыццё міжвольна плюскаў вачыма, у яго торгаліся густыя прыгожыя бровы. От напісаў слова «прыгожыя» і адразу ўсплыло: рыжыя. Не, ён не быў рыжы, хоць іншы раз той-сёй і называў яго гэтак. Па колеру валасоў ён быў светларусы, недзе саламяны, ці блізка да гэтага...

Як расказвалі, Мікола Гаўрылавіч, працуючы ўжо карэспандэнтам магілёўскай абласной газеты «За Радзіму», апрануты ў шынель, з аўтаматам на грудзях ездзіў ад вёскі да вёскі, з раёна ў раён на белым, выбракаваным з армейскага абоза кані. Цераз плячо вісела афіцэрская сумка, поўная блакнотаў і запісных кніжак. Туды ён занатоўваў і матэрыялы для газеты і матэрыял для будучага рамана. Матэрыял, што называецца, яшчэ не паспеў астыць. Стаяла восень 1943 года, час, калі першы баец-вызваліцель ступіў на беларускую зямлю, ступіў і пацалаваў яе.

Пасля Ткачоў працаваў сакратаром газеты. Газеты на той час выходзілі далёка за поўнач. Закутак сакратара быў адбіты ад астатняга пакоя дашчанай перагародкай, якая не даходзіла да столі. Сакратар шчыраваў над газетнымі палосамі. Кабінетаў ці чаго іншага, дзе можна было б адасобіцца, астацца сам-насам, не было. Таму ён тут прыхваткамі працаваў і над раманам. Працуючы, многа курыў. Сіні дым выпаўзаў з-за перагародкі і густой сіняй хмарай стаяў пад столлю ўсяго пакоя.

У красавіку 1957 года ў Каралішчавічах праводзілася нарада маладых. Неспадзявана быў выкліканы на яе і я. Салдатам. Да слова, ваенных на той нарадзе было трох, акрамя мяне — Уладзімір Верамейчык і Мікола Сіскевіч. Я служыў у авіяцыйнай парадная дывізіі. Якраз ішла падрыхтоўка да першамайскага параду. (Тады самалёты пралятaлі над Масквой, над калонамі войскаў на Краснай плошчы). У сувязі з падрыхтоўкай да параду мы памянялі аэрадром. І пакуль выклік на нараду шукаў мяне, я на дзень прыпазніўся.

Саюз пісьменнікаў размяшчаўся па вуліцы Энгельса ва ўтульным і гасцінным будынку, у якім, здаецца, не зачыняліся дзверы — да таго быў ён напоўнены духам прыязнасці і павагі адзін да аднаго. І не толькі равеснікаў, а і старэйшых да маладзейшых, і наадварот. Літаратурная моладзь, да якой бачком суседзіўся і я, лічыла Саюз пісьменнікаў ледзь не святым месцам. А вера ў тое, што там творацца справы толькі святыя, была непахісная. У прызначэнне пісьменніка, у яго грамадзянскія пазіцыю і паводзіны, як, дарэчы, у сілу друкаванага слова — яшчэ адзін мой непахісны столп!— я прымушаю сябе верыць і сёння.

Вясной 1957 года, калі праходзіла нарада маладых, Мікола Ткачоў не быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён стаў ім праз два гады. А тады ён рэдагаваў «ЛіМ». А мне, салдату, які з хваляваннем пераступіў парог такога слыннага дома і сярод іншых убачыў там і Ткачова, падаўся ён тады самым большым начальнікам. Відаць, на тую пару Мікола Гаўрылавіч зайшоў у саюз па нейкай сваёй рэдактарскай ці пісьменніцкай справе.

Чаму ён здаўся мне самым большым начальнікам? Ён прыняў самы занепакоены ўдзел: як перакінуць мяне ў Каралішчавічы? А неўзабаве выпала і аказія. Туды ехалі Іван Пятровіч Шамякін і Алесь Аляксандравіч Есакоў. На «ЗіМе». Ткачоў і ўладкаваў мяне да іх пасажырам. У гаворках — найбольш у маіх адказах на пытанні «жывых пісьменнікаў» — мы і даехалі да Дома творчасці.

У доме Саюза пісьменнікаў, памятным і гістарычным (у ім быў узарваны намеснік Гітлера на Беларусі Вільгельм фон Кубэ), у адным пакоі месціліся Тарас Канстанцінавіч Хадкевіч і Мікола Гаўрылавіч Ткачоў. Хадкевіч — кансультант, Ткачоў — адказны сакратар. Старшыней праўлення Саюза пісьменнікаў БССР быў Пятрусь Усцінавіч Броўка.

Не часта я заходзіў у саюз, Броўку бачыў яшчэ радзей і мімалётам, а вось дзверы насупраць, дзе працавалі Хадкевіч і Ткачоў, былі, мабыць, адчынены заўсёды. Наўскасяк ад іх за шырокім сталом сядзеў Ткачоў і, як помніцца, заўсёды нешта пісаў. Курыў і пісаў, памагаючы сваім думам бровамі. Бо яны ў яго заўсёды як рухаліся. Калі Мікола Гаўрылавіч уставаў з-за стала выйсці ў прыёмную, дзе была Таццяна Кузьмінічна Іваніцкая, або зайсці ў кабінет да Броўкі ці проста пасля доўгага сядзення размяць ногі, нешта абдумваючы, ён пацягваў носам, крок нібы прыпячатваў, нібы прыціскаў усім целам.

Аднаго разу, убачыўшы мяне ў калідоры, Мікола Гаўрылавіч сказаў:

— Уладзімір, зайдзі да мяне.

— Маё імя ён вымаўляў заўсёды з «у-кароткім».

Я зайшоў.

— Пішы заяву на дапамогу.

— ?

— Маладым аўтарам мы аказваем дапамогу. Па 30 рублёў. Ты ж — малады аўтар.

У тым, што я — малады аўтар, сумнення не было. Але як быць з дапамогай? За вайну і пасляваенне давялося нагля-

**ПРЫРОДА І МЫ**

# «РАКЕТАЙ» ПА РЫБЕ...

Артыкул Ігара Шкляраўскага «Баліць душа» (у «Литературной газете») передае і мой душэўны боль. Гаворачы пра шалёны бег «Ракет» па нашых рэках, аўтар піша: «І раптам я ўявіў усю даўжыню гэтай хвалі — ад Мазыра да Турава,— 200 км. Ударнай хвалі — улева і ўправа!».

Так, гэта тысячы выкінутых на бераг малькоў, аголеных каранёў — менавіта такую карціну ўбачылі і мы ў час здымкаў фільма «Паводка» (рэжысёр Віталій Чацверыкоў, аўтары сцэнарыя Фёдар Конеў, Віктар Казько, Вячаслаў Адамчык). Амаль год мы працавалі ў гэтых мясцінах. І ў карціне, мне здаецца, ёсць і боль душы, і праўда аб здзеках з прыроды.

Я бачыў «Ракеты» па ўсёй Прыпяці — ад Пінска і да ўпадзення яе ў Днепр. Гэта не 200 кіламетраў, а значна больш. Там, дзе пясчаныя берагі, малькі хваляй выкідваюцца на бераг, і няма каму іх вяртаць у раку. Яны гінуць! Гінуць сотнямі. А ў «Ракеце» едуць, асабліва ўвосень, тры-пяць чалавек.

У мяне ёсць знятыя кінакадры, дзе гэтае серабро спачатку варушыцца, а потым ператвараецца ў гніль. Ёсць кадры, якія я зняў і на Чырвоным возеры (або, як раней яго называлі, «Князь-возеры»), дзе было раней рыбы «видимо-невидимо». Кадры з загінуўшымі сазанамі, ляшчамі, шчупакамі. Я нічога не інсцэніраваў: проста зняў, што аднойчы ўбачыў — берагі, усланыя рыбай, мёртвых белых дзесяцікілаграмовых нежывых «прыгажуноў», што пагойдваліся на хвалях ля чаратоў.

Быў на Нёмане і, дальбог, раку не пазнаў. Няма ўсплёскаў на золку, удараў жэраха па хвалях, няма ямаў з вірамі, іх зацягнула пяском. Бачыў пажылога рыбака, які са слязамі на вачах гаварыў, што раку не пазнаць. «Не прыеду я больш сюды, душа баліць».

Баліць душа і па Сажы, і па Бярэзіне, і па Дняпры. Хто ж прыдумаў такое «ноўшаства», калі за баржой цягнецца на тросах шматпудовая бетонная бэлька... Разумею яе прызначэнне — каб баржа на паваротах не села на мель або не трапіла на бераг. Але што яна робіць з рэчышчам, з падводнай расліннасцю, якую шкоду наносіць рацэ, а ў канчатковым выніку краіне? І ў галаву прыходзіць адно: жывём толькі сённяшнім днём, бяром, бяром, а проста — знішчаем і не думаем, што мы пакінем дзецям, унукам...

Я люблю лавіць рыбу, найперш сам працэс. Злавіць на спінінг жэраха! Колькі трэба мець цярпення і ўмельства! Трэба яго высачыць недзе за карчом або дрэвам, нахіленым да вады, і абавязкова на плыні, дзе ён падпільноўвае сваю ахвяру і сполахі яго напаўняюць ранішнюю гладзь ракі. І ад водару лугоў, ад бруення ракі, ранішніх туманоў радасць напаўняе цябе... І раптам — маторкі. Адна за адной, ды яшчэ са спаранымі маторамі — як нашэсце. А спытаць — каму патрэбны маторныя лодкі? У першую чаргу — браканьеру. Сапраўдны рыбак, аматар прыроды ніколі не будзе лавіць рыбу на вуду з маторнай лодкі. Ён пройдзе 20—40 кіламетраў па беразе і зловіць сваю рыбіну. А браканьеру трэба многа рыбы, і ловіць ён яе любым спосабам — сеткай, восцямі, электравудай і г.д. і г.д.

Куды мы глядзім і чаму мы маўчым, чаму не забараняем на малых рэках (а ў Беларусі яны ўсе малыя) маторныя лодкі? Колькі бензіну ад іх трапляе ў раку, колькі шкоды яны наносяць?

Сілява — возера адно з прыгажэйшых, і там маторкі. Возера можна за 5 гадзін абысці на вёслах, дык жа не — равуць «Віхры», грымiць кананада ў дзень адкрыцця палявання. Апынуліся мы там з мастаком Аляксандрам Чартовічам. Туды мы, на яго радзіму, ехалі з радасцю, а вярталіся самотныя. Гіне і гэтая жамчужына, апісаная ў летапісе, і багатая сваёй гісторыяй.

Кажуць, што там будзе штосьці будавацца, і возера знікне. А што будзе са старажытнымі ўзгоркамі — захаваннямі? І што будзе з цудоўнай, найчыстай вадой? А яе ж не гэтак шмат ужо і засталося...

Мае рацыю Ігар Шкляраўскі, прыгадаўшы цудоўныя помнікі літаратуры, і думкі, якія гучаць у іх.

«Хлеб — святыня. Маці — святыня. Фрэскі старажытнага храма — святыня. А вада, пачатак усіх пачаткаў, не святыня?»

А як мы зберагаем гэтую святыню?

**Ю. МАРУХІН,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, кінааператар і рэжысёр-пастаноўшчык.**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

З гэтым лістом у рэдакцыю карэспандэнт «ЛіМа» пазнаёміў начальніка Беларускага ўпраўлення па ахове і аднаўленні рыбных запасаў і рэгуляванні рыбалоўства Аркадзя Фёдаравіча Мядзвецкага і папрасіў пракаменціраваць яго.

— Белрыбвод удзяляе максімум увагі пытанням нагляду за рыбнай гаспадаркай,— сказаў ён.—За пяцігодку мы праверылі 7471 прадпрыемства, выявілі 2125 парушэнняў, 3433 прамысловыя, камунальныя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ўзяты намі на ўлік.

Толькі ў мінулым годзе да

дзецца старцоўства, жабрацтва, пасмакаваць абразлівай беднасці. А тут — 30 рублёў! Гэта ж — стыпендыя трэцякурсніка (я якраз быў тады на трэцім курсе універсітэта). Але я не жабрак і не бедны, каб браць дапамогу (знутры нешта нашэптвала: мі-лас-ці-ну, мі-лас-ці-ну). Я не ведаў яшчэ, што бюджэтам Саюза пісьменнікаў у каштарысе прадугледжана пэўная сума на работу з маладымі: тыя ж нарады, тая ж разавая дапамога. Што гэта — адна з форм (матэрыяльнае заахвочванне) работы з творчай моладдзю.

— Дык трэба табе грошы ці не?— перапытаў Мікола Гаўрылавіч.

— Трэба.

— От бачыш. Тады — пішы заяву. Бяры аркуш паперы і пішы.

Гэты матэрыяльны выпадак пераканаў мяне ў маладыя гады, што большага начальніка за Ткачова ў саюзе няма.

Мікола Гаўрылавіч браў мяне на работу ў апарат Саюза пісьменнікаў Беларусі. На пасаду кансультанта. У самым пачатку 1971 года. Я сказаў «браў» і юрыдычна, відаць, сказаў няправільна. Бо кандыдатура, пэўна ж, абмяркоўвалася на сакратарыяце, але званок у кінабюлетэнь «На экранах Беларусі», дзе я на той час працаваў, быў ад яго. Таму так і кажу.

Браў ён мяне на работу і ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». 3 красавіка 1972 года, з дня заснавання выдавецтва, ён быў прызначаны яго дырэктарам.

Калі зрабіць невялікае адступленне, то кніжкі, пазначаныя фірмай «Выдавецтва «Мастацкая літаратура» пайшлі ў свет у канцы красавіка таго ж года. У мяне выходзіла якраз аповесць «Тайна бункера № 7» (пераклад аповесці «Пажарніца»). Яна была першай кнігай «Мастацкай літаратуры». Прынамсі, так сказалі мне ў рэдакцыі, калі дарылі сігнальны экземпляр кніжкі.

Выдавецтва толькі пачыналася. Запоўніць штаты на 90 чалавек няпроста. Яшчэ было невядома, дзе размясціцца маладому выдавецтву. Таму Мікола Гаўрылавіч ці не кожны дзень быў у саюзе.

Аднаго разу ён сказаў:

— Уладзімір, пераходзь да нас працаваць. Я ўжо абгаварыў тут з кім трэба. Калі згодзен, аформім пераводам. Узначаліш паэзію.

— Аддзел?

— Бяры вышэй — рэдакцыю.

І я згадзіўся. Сваім таварышам цяпер гавару ў жарт, што дзесяць гадоў праседзеў на вулкане, маючы на ўвазе дзесяцігоддзе, якое аддаў рэдакцыі паэзіі. Ну, а калі браць усе рэдакцыі, а іх было сем, то Мікола Ткачоў сядзеў адразу на сямі вулканах. А ў кожнай рэдакцыі свой аўтар, і кожны,— а так, мабыць, думаюць пра сябе многія,— не менш як геній. І кожнаму вымі і падай. На ўсіх, вядома, не хапае і ніколі не хопіць. А яшчэ калялітаратурныя людзі. І зноў-такі, у кожнай рэдакцыі свае. А для Міколы Гаўрылавіча ўсе яны былі ягоныя. Бо ён — і бог, і суддзя. Да яго — і з праўдай, і з крыўдай, па дапамогу, па абарону ад нас, сякіх ды такіх.

І гэта толькі з сямі рэдакцый. А яшчэ ж амаль столькі іншых рэдакцыйных службаў. Ды выкананне месячных, квартальных планаў, ды пасяджэнні калегій у Дзяржкамвыдзе, складанне і ўтруска планаў, кніжныя выстаўкі-кірмашы ў Маскве, нарады, пісьмы, скаргі, фінансавыя справы выдавецтва і г. д. і да таго падобнае. І разам з усім гэтым ён — наш громаадвод, наш дыпламат, наш начальнік і бацька.

— Складанае жыццё, Уладзімір. Ой, складанае,— не адзін раз чуў я ад Міколы Гаўрылавіча.

Гарачае крэсла дырэктара выдавецтва. Яшчэ якое гарачае! Гарыць у тым начальніцкім крэсле здароўе, як порах.

Мікола Ткачоў усё сваё жыццё працаваў з людзьмі. Яго вялікі вопыт ні разу не дазволіў яму накрычаць з гарачкі, злоўжыць уладай, дадзенай яму, не знайсці адзіна правільнае рашэнне і выйсце з кожнай, самай няпростай сітуацыі.

У выдавецкай рабоце, я сказаў бы, «фірменнай» правіннасцю з'яўляецца нясвоечасовая, неадпаведная графіку здача рукапісу з рэдакцыі ў вытворчы аддзел. Прычын таму многа. Але, як правіла, рэдактар кнігі бывае вінаваты перад усімі і ва ўсім. Тут ён — стрэлачнік, і ўсе гузакі і тумакі — яго. Аднак Мікола Ткачоў у любой сітуацыі даходзіў да першапрычыны, стараўся разабрацца ва ўсім.

Каб не падумалася каму, што ён быў мяккацелы або ўсёдаравальны, то не. Але ён не сек з пляча, ён мог і спагнаць за недагляд, і, параіўшыся, знізіць прагрэсіўку. Не разабраўшыся, рашэнняў ён не прымаў. Душэўнай траўмы ён не прычыніў нікому.

Мікола Ткачоў валодаў выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі. Ці то ў правядзенні нейкага мерапрыемства, скажам, суботніка на будаўніцтве Дома кнігі, дзе разам з намі працаваў і сам, ці з выкананнем фінансавага плана, у чым немалую паслугу яму рабіла эканамічная адукацыя, набытая перад вайной.

Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» кожную сераду праводзіў вытворчую лятучку (яны праводзяцца і цяпер). Як сёння бачу: то лёгка, то стомлена Мікола Гаўрылавіч устае з-за свайго стала. Заціснутыя ў пальцах левай рукі, трымае ён акуляры, якія, дарэчы, надзяваў рэдка. У правай — папка з паперамі, з якімі трэба азнаёміць бліжэйшых сваіх памочнікаў. Нібы прыціскаючы крок, ідзе, садзіцца, спакойна і роўна гаворыць загадчыцы вытворчага аддзела: «Ну, дакладвайце...»

Мікола Гаўрылавіч вельмі даражыў калектывам, які падабраў. Можна сказаць, любаваўся ім. Дзе трэба, ён гаварыў так:

— У нас калектыў адукаваны, падрыхтаваны. У нас машыністкі — з вышэйшай адукацыяй. Нашы людзі чытаюць кнігі, якіх яшчэ ніхто не чытаў. Яны прымаюць рашэнне: быць кнізе ці не быць. Гэта вялікая, я сказаў бы, высокая адказнасць.

Мікола Ткачоў балюча перажываў страту равеснікаў, блізкіх, маладзейшых літаратараў. Перажываў амаль фізічна. Надоўга замаўкаў, думаючы, відаць, пра сябе, пра сваё здароўе. Хоць мне здавалася, што ён заўсёды быў здаровы. Але пасля кожнай смерці пісьменніка ён засмучана гаварыў:

— Снарады падаюць усё бліжэй...

Нечакана і вельмі рана, у шэсцьдзесят адзін год, прыляцеў і разарваўся і яго снарад. Здарылася гэта 20 красавіка 1979 года.

У гэты дзень кожны раз прыязджаем мы на могілкі па Маскоўскай шашы. Пакласці кветкі, сказаць слова. Прыязджаем тыя, хто працаваў з ім у выдавецтве з першага дня, з першага года. На жаль, у такіх паездках нас усё меншае. Бо ўсё бліжэй падаюць снарады ля іншых жыццяў і ля нечай памяці.

...Пісьменнік Мікола Ткачоў, як мог, падахвочваў творцаў. Ён гаварыў нам:

— Хлопцы, вы сачыце за добрым аўтарам. Графаман праб'ецца і сам.

Вядома, што ў выдавецкіх планах заўсёды цесна. У канцы года трэба некага скарачаць, некага пераносіць на наступны год. Гэта вельмі балюча для таго, каго скарачаюць, і для таго, хто скарачае. Каб на трошкі зменшыць боль хоць аднаму, сваю кнігу «Дыханне агню», прымеркаваную да 60-годдзя, Мікола Ткачоў уласнаручна выкрэсліваў з планаў два-тры гады. І кніга выйшла пасля юбілею.

Мы гэта помнім.

Мне трошкі давялося там-сям пабываць, а найбольш пачуць ад людзей дасведчаных вось пра што: чалавека творчай прафесіі трэба пастаянна натхняць. Калі не натхняць, то заахвочваць творцу проста неабходна. Па гэтай прычыне, відаць, у Францыі ўстаноўлена вялікая колькасць розных прэмій. Вартаснага выражэння кранаць не будзем — яно самае рознае, часам нават сімвалічнае. У Славакіі, напрыклад, акрамя іншых, ёсць прэміі літфонда. У 8.000 крон (800 рублёў). Яны прысуджаюцца за лепшы рукапіс першай кнігі, падкрэслю — рукапіс. Да прыкладу, пад час майго знаходжання ў Славакіі такую прэмію атрымаў таленавіты малады на той час паэт Міша Худа.

На выдавецкім рэдсавеце я звяртаўся з прапановай устанавіць літаратурныя прэміі выдавецтва «Мастацкая літаратура». І зрабіць гэтыя прэміі імяннымі — імя першага дырэктара выдавецтва Міколы Ткачова.

Кажучы па-руску, мая прапанова пакуль «не возымела»...

Мікола Ткачоў меў нямала сяброў. Яго асоба і характар былі створаны для дружбы, дабрыні. Ён разумеў людзей, любіў іх. Ён адгукаўся душой на добрае. Чуйны быў ён і на слова. Пранікнёна, да слязы, спяваў песні. А спяваў найчасцей сваю любімую:

**Ой, вецер вее, ой, ды вецер павявае.**
**Ой, маці ў доньні пра жыццё пытае.**
**Ой, спытай, маці, ды ў шэрае вуцяці.**
**Ой, шэрая вуця ды на моры начуе,**
**Ой, яна ж ды мае ўсё горачка чуе.**

Такім задумліва-журботным, як гэта песня, бачу яго і сёння.

---

# Мікола ВІШНЕЎСКІ

**17 сакавіка пасля працяглай хваробы на 76-м годзе жыцця памёр пісьменнік Мікола Вішнеўскі.**

**Мікалай Аляксеевіч Вішнеўскі нарадзіўся 28 сакавіка 1910 года ў Гомелі ў рабочай сям'і. У 1931 годзе скончыў Белпедтэхнікум у Мінску і пачаў працаваць у газеце «Звязда». Вучыўся ў Маскоўскім кінаінстытуце, быў загадчыкам сельгасаддзела ў вілейскай абласной «Сялянскай газеце». На пачатку вайны служыў у будаўнічым батальёне на Бранскім фронце, потым быў начальнікам поездадрукарні на Калінінскім фронце, літсупрацоўнікам у рэдакцыі газеты «За свабодную Беларусь», часопіса «Партызанская дубінка». 3 лістапада 1942 г. — спецкарэспандэнт газеты «Савецкая Беларусь», а з 1944 года — загадчык сельгасаддзела, уласны карэспандэнт газеты «Звязда». Апошнія месяцы працы перад выхадам на пенсію ў 1967 г.— намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Сельское хозяйство Белоруссии».**

**Член КПСС.**

**Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.**

**На творчым рахунку Міколы Вішнеўскага шматлікія нарысы, якія друкаваліся ў часопісах і газетах, кніжкі пра перадавых людзей рэспублікі, а сярод іх — «Майстар конегадоўлі», «Герой Сацыялістычнай Працы Еўдакія Кухарава». Выйшаў таксама зборнік апавяданняў «Скарб зямлі». Мікола Вішнеўскі — аўтар некалькіх навукова-папулярных і вучэбных сцэнарыяў.**

**Пісьменнік добра ведаў жыццё, чэрпаў з яго сюжэты і вобразы для сваіх твораў. Быў па-партыйнаму прынцыповы, працалюбівы і чулы.**

**Светлая памяць пра Міколу Вішнеўскага назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, з кім ён працаваў.**

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.**

**Саюз пісьменнікаў БССР з глыбокім жалем паведамляе, што на 76 годзе жыцця памёр пісьменнік Мікола ВІШНЕЎСКІ, і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

**адміністрацыйнай адказнасці за розныя парушэнні прыцягнута 2950 асоб. З вінаватых спагнана 66380 рублёў штрафу. Прычым штраф цяпер бярэцца з заработнай платы, а не са сродкаў прадпрыемстваў. За найбольш грубыя парушэнні вінаватыя прыцягваюцца і да крымінальнай адказнасці. Так што магу канстатаваць: усе гэтыя меры садзейнічалі таму, што колькасць парушэнняў у апошні час зменшылася.**

**Цяпер канкрэтна па пытаннях, закранутых у пісьме.**

**Рух быстраходных суднаў, тых жа «Ракет» па рэках — праблема надзвычай вострая. Сапраўды, летам, калі ўзровень вады ў рэках памяншаецца, калі рыба падымаецца ў верхнія слаі, яна можа трапіць пад вінт рухавіка. Яшчэ два гады назад можна было назіраць карціну, прыкладна такую, якая намалявана аўтарам. Мы ведалі пра гэтыя факты, вывучалі іх і высветлілі, што пасля кожнага рэйсу гінула да 4—5 кілаграмаў рыбы.**

**Мы звярнуліся ў вышэйстаячыя інстанцыі з прапановай забараніць рух «Ракет» па рэках Беларусі. Трэба сказаць, што рачны флот у апошні час рэзка скараціў колькасць рэйсаў. Рух суднаў на падводных крылах па Дняпры і Нёмане забаронены. Засталіся толькі тры рэйсы на паўднёвым рачным вузле (па Прыпяці).**

**Па гэтым пытанні мне дакладала інспекцыя рыбааховы з Петрыкава. Большасць рэйсаў «Ракет» па Прыпяці спынены, а вадзіцелі суднаў, якія перавышаюць хуткасць, асабліва на паваротах, або проста «ліхачаць», строга караюцца. Цяпер пасля рэйсаў, як сведчаць бакеншчыкі, на берагі выкідваюцца толькі адзінкі малькоў.**

**Што тычыцца «ноўшаства», пра якое гаворыць Ю. Марухін, дык яно і не такое ўжо небяспечнае. Ёсць такое прыстасаванне, якое прымацоўваецца да баржы для яе ўстойлівасці. І мы не бачым у гэтым вялікай бяды. Баржа рухаецца па цэнтры ракі, а рыба нерасціцца ў прыбярэжнай зоне.**

**Ды, у рэшце рэшт, рэкі існуюць не толькі для рыбакоў. Яны ж патрэбны і як транспартныя шляхі, і тут нічога не папішаш. Важна толькі, каб кожны, хто карыстаецца ракой, захоўваў правілы рэжыму — і гідралагічнага, і гідрахімічнага.**

**Што тычыцца маторных лодак, дык яны сапраўды прыгнятаюць рыбу, падаўляюць яе жыццядзейнасць.**

**Але ў апошні час мы дамагліся больш жорсткіх правілаў для аматараў хуткай язды. Папершае, цяпер ніводная незарэгістраваная лодка не мае права паяўляцца на вадзе без нумарнога знака. Забаронена заліваць у бак нафту. Ну, і тое, што значна павялічылася цана на маторныя лодкі, таксама спрыяла памяншэнню іх колькасці. З 1 жніўня 1984 года забаронена прымяненне так званага «павука» (спецыяльнай сеткі для рыбнай лоўлі), як і восцяў, пра якія ўпамінае аўтар пісьма. Ёю ловяць шчупака, калі ён выходзіць на траву нерасціцца. А браканьера адразу не вылавіш, як шчупака. Стараемся высочваць іх з дапамогай рацый, верталётаў і г.д. Дадамо, што цяпер забаронена рыбаловам-аматарам ужываць прыстасаванні для прамысловага лову рыбы. І парушэнняў стала менш. І ўсё ж да 8 тысяч парушальнікаў затрымліваем штогод.**

**Аднак не ўсё так драматычна, як пра гэта піша Ю. Марухін. Скажу, напрыклад, што водная плошча рэспублікі пастаянна павялічваецца. Калі пасля вайны ў нас было 7—8 штучных вадаёмаў, дык цяпер іх больш за сто. Адна водная сістэма ад Полацка да Даўгаўпілса, якая запоўніцца вадой у гэтым годзе, складзе 110 кіламетраў. А гэта восем такіх азёраў, як Нарач.**

**За апошнія дзве пяцігодкі мы дамагліся стабільнай колькасці каштоўных парод рыб, такіх, як лешч, судак. А ў некаторых раёнах, як Мастоўскі, Браслаўскі, Мазырскі, ляшча і судака стала значна больш. А калі ўлічыць, што судак — гэта індыкатар чысціні вады, дык справы нашы не такія ўжо і безнадзейныя. Нарэшце, нагадаю, што ва ўмовах тэхнічнага прагрэсу ахова рыбы — задача вельмі складаная. З кожным годам ускладняецца і наша работа. Напрыклад, вялікая праблема — акліматызацыя новых відаў рыб. Трэба яшчэ нямала зрабіць у справе мабілізацыі грамадскасці на барацьбу з браканьерамі.**

**А ўвогуле, пісьмо кінааператара Ю. Марухіна не толькі засмуціла, але і парадавала. Болей бы такіх нераўнадушных аматараў рыбалкі.**

**Я асабіста 30 год аддаў рыбаахове, і для мяне кожнае парушэнне воднага рэжыму таксама аддаецца болем у душы.**

---

## АДЗІНЫ Ў ВОБЛАСЦІ

**З новай праграмай выступае цяпер у гарадах і вёсках вобласці эстрадна-сімфанічны самадзейны аркестр, створаны пры Баранавіцкім гарадскім Доме культуры, — калектыў малады і пакуль што адзіны ў вобласці. Аркестр — неаднаразовы ўдзельнік і прызёр многіх фестываляў і конкурсаў, лаўрэат Усесаюзнага агляду самадзейнай мастацкай творчасці, прысвечанага 40-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Удастоен ганаровага звання — народны.**

**Пры Баранавіцкім гарадскім Доме культуры працуюць 25 самадзейных мастацкіх калектываў. Пяць з іх — народныя.**

**БЕЛТА.**

## Удакладненне

**У рэцэнзіі У. Замкаўца «Кінула Люда, маніла Святлана...» («ЛіМ», 25.02.1986 г.) на кнігу твораў маладых празаікаў «Сустрэча» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1985 г.) адным з рэцэнзентаў выдання названы А. Марціновіч. Прозвішча яго пазначана на шмуцтытуле зборніка, але на самой справе А. Марціновіч не з'яўляецца рэцэнзентам гэтай кнігі.**

